

"Каб усе былі адно" (Ян 17, 21)

# Царква

№ 1 (32), 2002 ВЯЛІКІ ПОСТ - ПАСХА



24.01.2002. Асізі (Італія). Дзень малітвы за мір. Папа Ян Павел II з прадстаўнікамі хрысьціянскіх Цэркваў і іншых сусьветных рэлігіяў.



• 24.01.2002. Асізі (Італія). Сумесная малітва хрысьціянаў за мір. Малітву чытае біскуп Армянскай Апостальскай Царквы.



24.01.2002. Асізі (Італія). Папу вітае прадстаўнік юдэйскай супольнасьці.





• 25.01.2002. Ватыкан. Пасьля Дня малітвы ў Асізі Папа сустракаецца з дэлегацыяй Расейскай Праваслаўнай Царквы (яе ўзначальваў мітрапаліт Піцірым) і з прадстаўніком мусульманскай дэлегацыі.

***24 студзеня ў італійскім горадзе Асізі адбыўся Дзень малітвы за мір, які аб'яднаў лідараў практычна ўсіх сусьветных рэлігіяў. На пачатку сакавіка Папа Рымскі Ян Павел II накіраваў кіраўнікам дзяржаваў сьвету асабістыя пасланьні разам з тэкстам выніковага дакументу гэтага міжнароднага экуменічнага спатканьня. У ім — заклік да ўсталяваньня міру ва ўсім сьвеце.***

Прадстаўнікі розных веравызнаньняў і рэлігійных традыцыяў у выніку сустрэчы ў Асізі склалі своеасаблівы «дэкалог» з 10 пунктаў з пералікам сумесных абавязкаў ды канкрэтных дзеяньняў дзеля абароны міру і гармоніі паміж людзьмі ва ўсім сьвеце. Вось вытрымкі з гэтага дакументу, асобныя пункты з якога былі зачытаны прадстаўнікамі розных веравызнаньняў на сустрэчы ў Асізі:

**Д-р Райсэр Конрад, Генеральны сакратар Сусьветнай рады Цэркваў:** «Мы абавязуемся абвяшчаць нашае моцнае перакананьне, што гвалт і тэрарызм супярэчаць сапраўднаму рэлігійнаму духу ды асуджаем усякія спробы выкарыстаньня гвалту і вайны ў імя Бога ці рэлігіі. Мы абавязуемся зрабіць усё, што магчыма, каб выкараніць усе прычыны тэрарызму».

**Мітрапаліт Піцірым, Расейская Праваслаўная Царква:** «Мы абавязуемся садзейнічаць культуры дыялогу, каб расьлі ўзаемаразуменьне і давер паміж паасобнымі людзьмі і народамі, таму што культура дыялогу зьяўляецца асновай сапраўднага міру».

**Біскуп Васіль, Кіпрская Праваслаўная Царква:** «Мы абавязуемся прабачаць адзін аднаму памылкі й прадузятасьці мінулага і сучаснага ды дапамагаць адзін аднаму ў выкараненьні эгаізму і гвалту, а таксама вучыцца на вопыце мінулага, бо мір без справядлівасьці ня ёсьць сапраўдным мірам».

**Гхомі, мусульманін з Ірану:** «Мы абавязуемся гаварыць ад імя тых, хто адкідае гвалт і зло ды хоча прычыніцца ўсімі сваімі сіламі да таго, каб чалавецтва нашага часу атрымала сапраўдную надзею на справядлівасьць і мір».

**Ніхіка Нівана, кіраўнік дэлегацыі будысцкай школы:** «Мы абавязуемся заахвочваць да кожнай ініцыятывы, якая садзейнічае сяброўству паміж народамі, усьведамляючы тое, што тэхналагічны прагрэс, калі яму не спадарожнічае моцнае паразуменьне паміж народамі, вядзе Сусьвет да небясьпекі зьнішчэньня й сьмерці».

**Рабін Самуэль-Рэнэ Сірат:** «Мы абавязуемся прасіць кіраўнікоў народаў, каб яны на нацыянальным і міжнародным узроўнях прыкладалі ўсе намаганьні для пабудовы і ўмацаваньня — на грунце справядлівасьці — сьвету салідарнасьці і супакою».

*Працяг тэмы на с. 3, 4* ⇨

# Слова Візітатара

## «ad nutum Sanctae Sedis»

## для грэка-каталікаў Беларусі на сьвята Пасхі Гасподняй 2002 году

*Уваскрасеньня дзень!*
*Узрадуемся, людзі:*
*сёньня Пасха Гасподняя!*
*(Ютрань Пасхальная)*

*Пачэсныя Айцы!*
*Любыя Манахі, Манахіні й Браты Семінарысты!*
*Дарагія ў Госпадзе Браты й Сёстры —*
*Сыны і Дочкі Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы!*
*Шаноўныя Сябры!*

1 Сьвятая Хрыстовая Царква, моцай жыцьцядайнага Крыжа Ісуса Хрыста, праз 40 дзён суправаджала нас на шляху вялікапоснай падрыхтоўкі да сьветлага Ўваскрасеньня Хрыстовага.

На гэтым шляху мы мелі магчымасьць асэнсаваць вартасьць і веліч нашага хрысьціянскага пакліканьня: пакліканьня быць хрысьціянамі ў Беларусі ў 2002 годзе, быць хрысьціянамі ў вернасьці нашай усходняй традыцыі і ў еднасьці з Рымскім Апостальскім Пасадам.

На шляху вялікапоснай падрыхтоўкі да Сьвятой Пасхі Госпад Ісус Хрыстос паставіў нам у гэтым годзе шэраг сьветачаў нашае Бацькаўшчыны — вялікіх волатаў веры ды хрысьціянскае любові:

• Сёлета, 11 лютага, мы адзначалі 50 гадоў пакутніцкай сьмерці вялікага беларускага сьвятара — архімандрыта Андрэя Цікоты, які за сваю вернасьць Паўсюднай Царкве і асабліва Апостальскай Сталіцы быў замучаны ў сталінскім лагеры пад Тайшэтам ва Ўсходняй Сібіры. Гэтая гадавіна дала нам магчымасьць асэнсаваць у малітве перад Госпадам каштоўную спадчыну мучаніцтва шматлікіх нашых сьвятароў ды вернікаў, што аддалі жыцьцё за Бога, Царкву і Бацькаўшчыну. Спадчыну, вернымі нашчадкамі якой мы павінны быць.

• У тым самым духу 16 лютага прадстаўнікі духавенства й вернікаў нашае Царквы прынялі ўдзел у штогадовым успаміне пакутніцкай сьмерці Расіцкіх навамучанікаў — блаславёных Юрыя Кашыры і Антона Ляшчэвіча ды таксама шматлікіх жыхароў Расіцы і наваколья розных веравызнаньняў, што былі спаленыя фашыстамі ў лютым 1943 году.

• На шляху вялікапоснага асэнсаваньня — у сьвятле жыцьцядайнага Крыжа Гасподняга — нашых хрысьціянскіх абавязкаў, мы ўзгадвалі таксама ў малітве за супакой усіх навамучанікаў часоў рэлігійнага й нацыянальнага перасьледу, усіх пакутнікаў, што пахаваныя ў Курапатах. Гэта дало нам магчымасьць задумацца над той жудаснай гекатомбай, над той вялізнай колькасьцю ахвяраў вайны і тэрору нашага народу ды маліцца за ўсіх, хто абараняе гэтае месца ад прафанацыі. Лічым нашым маральным абавязкам памятаць і шанаваць усе ахвяры Курапатаў, а таксама прыкласьці намаганьні, каб на гэтым месцы пакуты хутка маглі быць пастаўленыя крыжы міжканфесійнага мемарыялу ахвярам сталінскага тэрору.

2 Ужо ў межах Вялікага тыдня мы сьвяткавалі сёлета сьвята Дабравешчаньня Найсьвяцейшай Багародзіцы. Яно дазволіла нам лепш асэнсаваць унутраную лучнасьць паміж Таямніцай Уцелаўленьня Ісуса Хрыста і Таямніцай Ягонай Пасхі.

З гістарычных прычынаў сьвята Дабравешчаньня адзначаецца ў нашай Беларускай Грэка-Каталіцкай Царкве таксама як Дзень малітваў за Бацькаўшчыну. Кантэкст Пасхальнай перамогі Ісуса Хрыста, Ягонага Крыжа і Ўваскрасеньня, у якім мы сёлета адзначаем гэтае сьвята, напаўняе нас усіх нязгаснай надзеяй ды надае глыбокі сэнс ўсім нашым малітвам і намаганьням дзеля духоўнага адраджэньня нашае Бацькаўшчыны.

На шляху вялікапоснай духоўнай падрыхтоўкі да сьвята Пасхі Гасподняй сьвятары й вернікі нашае Царквы зьдзейсьнілі 26 сакавіка пілігрымку ў Пінск да магілы Слугі Божага Біскупа Зыгмунта Лазінскага, з нагоды 70-х угодкаў ягонае сьмерці. Ля магілы Біскупа Пінскага, які ў міжваенны час зрабіў вельмі шмат для аднаўленьня нашай Царквы ў Беларусі, яны прасілі ў малітвах — праз заступніцтва Слугі Божага Зыгмунта — аб ласцы поўнай нармалізацыі жыцьця Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы ў сучаснай Беларусі.

Гэтую малітву за нашую Царкву, праз заступніцтва Слугі Божага Зыгмунта, хочам працягваць увесь пасхальны перыяд.

3 Сёньня Ўваскрослы Госпад Ісус Хрыстос, у Сваёй бязьмежнай дабрыні, запрашае нас увайсьці ў сьвяткаваньне Ягонага сьветлага Ўваскрасеньня.

Сьвятая Царква навучае нас словамі сьвятога Яна Залатавуснага: «Хай усе пабожныя і багалюбцы цешацца ў дзень гэтай вялікай і сьветлай урачыстасьці; хай усе разумныя слугі ўвойдуць у радасьць Гаспадара свайго».

Госпад бачыць усе нашыя намаганьні й хоча блаславіць усе нашыя добрыя планы: «Ён прымае працу і падтрымлівае намеры, шануе высілкі й добрыя жаданьні хваліць. Дзеля гэтага прыйдзеце ўсе да радасьці Гаспадара нашага».

У адказ на гэтыя словы мы хочам з радасьцю сьпяваць:

*Уваскрасеньня дзень!*
*Узрадуемся, людзі:*
*сёньня Пасха Гасподняя, Пасха!*
*Бо вось ад сьмерці да жыцьця*
*і ад зямлі на неба*
*Хрыстос Бог перавёў нас.*

А калі мы з радасьцю пяем Уваскросламу Госпаду, мусім памятаць, што моц Ягонае Пасхальнае перамогі жыве й сёньня ў Ягонай Царкве. «Царква выражае кожны год на Пасху, у вонкавых знаках, Хрыстовую любоў, якая выйшла з Ягонага боку, як кроў і вада, каб праз сакраманты перайсьці ў сэрцы людзей і стацца для іх вечным жыцьцём» *(а. Тамаш Падзява, «Катэхезы»).*

Як хрысьціяне, мы пакліканыя, каб быць у Беларусі 2002 году носьбітамі Пасхальнай надзеі і любові Хрыста ды сьведчыць перад людзьмі, што «Хрыстос сапраўды ўваскрос!»

4 У сьветлы перыяд Уваскрасеньня Гасподняга Сьвяты Айцец Ян Павел II будзе знаходзіцца з Пастырскім візітам у Балгарыі — 23-25 траўня 2002 году. Яго Сьвятасьць Папа Ян Павел II адправіцца ў Балгарыю, каб адведаць каталікаў лацінскага і ўсходняга абрадаў ды каб маліцца разам з імі. У духу паяднаньня і братэрства ён, як Першаярарх Паўсюднае Царквы, плануе сустрэцца таксама з ярархіяй і вернікамі Праваслаўнай Царквы. Нашай малітвай мы хочам падтрымаць Сьвятога Айца, каб гэты ягоны візіт мог прынесьці багаты духоўны плён для ўсіх хрысьціянаў і ўсіх людзей добрай волі ў Балгарыі і на Балканах.

Дарагія ў Госпадзе Браты й Сёстры! Шаноўныя Сябры!

У сьвятле Пасхі Хрыста, Які перамагае ўсялякія перашкоды, хочам таксама працягваць нашыя ўзмоцненыя малітвы, каб Сьвяты Айцец Ян Павел II праз непрацяглы час змог адведаць таксама й Беларусь і сваім апостальскім словам умацаваў надзею ўсіх хрысьціянаў нашай Бацькаўшчыны ды падтрымаў духоўнае адраджэньне нашага грамадзтва і нашай нацыянальнай культуры.

Няхай нашая малітва будзе сапраўдным, жывым спатканьнем з Уваскрослым Ісусам, Які ўмацоўвае нашую надзею.

Уваскрослы Ісус Хрыстос няхай адорыць усіх вас, вашыя сем'і, вашых блізкіх і сяброў сьвятлом Сваёй Пасхальнай перамогі.

З пастырскім блаславеньнем ды велікодным вітаньнем:
*ХРЫСТОС УВАСКРОС — САПРАЎДЫ ЎВАСКРОС!*

**+ Архімандрыт Сяргей (ГАЕК), Візітатар**

+ архім. Сергей Гаек

*Рым-Менск, Пасха Хрыстова 2002 году*



ДЗЯРЖСАКРАТАРЫЯТ

ПЕРШАЯ СЕКЦЫЯ - АГУЛЬНЫЯ СПРАВЫ

*Ватыкан, 29 студзеня 2002 г.*

*Дастойнаму Архімандрыту*
*Сяргею Гаеку M.I.C.*
*Візітатару "ad nutum Sanctae Sedis"*
*для грэка-католікаў Беларусі*

Дастойны Архімандрыт!

Як знак шчырай пашаны, ад сябе і ад імя тых, хто даручаны Вашай пастырскай апецы, Вы накіравалі Сьвятому Айцу словы пра сулучнасьць ды запэўнілі аб адмысловых малітвах з нагоды сустрэчы ў Асізі ў Дзень малітвы за мір.

Яго Сьвятасьць удзячны за гэтую праяву духовай салідарнасьці і заахвочвае ўсіх ахрышчаных, каб узрасталі ў руплівасьці дзеля Евангельля й міру, ды ад шчырага сэрца ўдзяляе Вам і ўсім, хто далучыўся да гэтай малітвы, Апостальскае Блаславеньне як заруку багатых нябесных ласкаў.

Карыстаюся нагодай, каб перадаць Вам мае словы пашаны.

*Аддадзены ў Госпадзе*

*Манс. Пэдра Лопэз Кінтана*
*Асэсар*

***З** нагоды сустрэчы прадстаўнікоў хрысьціянскіх Цэркваў ды рэлігіяў сьвету ў Асізі ў Дзень малітвы за мір, 24 студзеня 2002 году, Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў Беларусі архімандрыт Сяргей Гаек накіраваў Сьвятому Айцу Яну Паўлу II адмысловы ліст, у якім запэўніў Яго Сьвятасьць пра духовую, малітоўную сулучнасьць усіх сьвятароў і вернікаў БГКЦ у гэтым важным міжканфесійным ды міжрэлігійным мерапрыемстве дзеля міру. У адказ Дзяржсакратарыят, з даручэньня Яго Сьвятасьці, накіраваў Айцу Візітатару ліст, зьмест якога падаем у беларускім перакладзе.*



SEGRETERIA DI STATO

PRIMA SEZIONE - AFFARI GENERALI

Dal Vaticano, 29 gennaio 2002

Reverendo Archimandrita,

con gesto di spontanea devozione, Ella, a nome anche di quanti sono affidati alle Sue cure pastorali, ha fatto pervenire al Sommo Pontefice sentimenti di adesione e l'assicurazione di particolari preghiere, in occasione dell'incontro ad Assisi per la Giornata di Preghiera per la pace.

Riconoscente per il premuroso atto di spirituale solidarietà, Sua Santità, mentre auspica che continui in ogni battezzato la fedele adesione al Vangelo e alla pace, imparte di cuore a Lei ed a quanti si sono uniti al gentile atto la Benedizione Apostolica, propiziatrice di abbondanti consolazioni celesti.

Profitto della circostanza per confermarmi con sensi di distinto ossequio

dev.mo nel Signore

Mons. Pedro López Quintana
Assessore

Reverendo Archimadrita
SERGIO GAJEK M.I.C.
Visitatore ad *nutum Sanctae Sedis*
per i Greco-Cattolici in Bielorussia
Via Corsica, 1
00198 ROMA

# Памяці сьвятара – руплііўца беларушчыны

***Айцец Уладзіслаў Чарняўскі памёр 22 сьнежня 2001 году, не дачакаўшы 57-й гадавіны сваіх сьвятарскіх сьвячаньняў. На пахаваньне прыехалі тысячы людзей, неабыякавых да лёсу й творчасьці гэтага сьвятара, перакладчыка, патрыёта. Яшчэ ніколі не было ў Вішневе, што на Валожыншчыне, такой колькасьці шаноўных гасьцей, сьвятароў ды прадстаўнікоў царкоўнай ярархіі.***

Імшу за памерлага адслужыў Яго Эмінэнцыя кардынал Казімір Сьвёнтак разам з Яго Эксцэленцыяй біскупам Кірылам Клімовічам, Вялебным архімандрытам Сяргеем Гаекам (MIC) і сьвятарамі, якія рэпрэзентавалі амаль усе дыяцэзіі Беларусі. Спатканьне пры труне а. Уладзіслава сьмела можна назваць экуменічным. Апрача католікаў лацінскага й візантыйскага абрадаў у жалобных урачыстасьцях прымалі ўдзел настаяцель мясцовай праваслаўнай парафіі, адзін з кіраўнікоў Беларускага Біблійнага Таварыства пастар Якаў Патупчык і пастар Антон Бокун — рэдактар першага выданьня Новага Запавету ў перакладзе а. Уладзіслава Чарняўскага.

Пра ксяндза з Вішнева, які моліцца па-беларуску, я першы раз пачуў ад бацькі ў дзяцінстве. Распавядаў, што а. Уладзіслаў прыязджаў на матацыкле. Пытаўся ў дзяцей малітвы з катэхізмоўкі і за добры адказ частаваў цукеркамі. Тады я яшчэ ня ведаў, што лёс падорыць мне некалькі незабыўных сустрэчаў з гэтым чалавекам.

Уладзіслаў Чарняўскі нарадзіўся 14 студзеня 1916 г. у засьценку Амбружын Гарадзенскай губерні ў шматдзетнай сям'і простага селяніна. З дзяцінства зьведаў цяжкасьці жыцьця. Сям'я, якую I Сусьветная вайна выгнала з хаты, вярнулася ў свой родны кут у 1919 годзе. З гэтага этапу жыцьця ў а. У.Чарняўскага засталіся непрыемныя ўспаміны — голад і цяжкая хвароба на крываўку.

Сваю адукацыю ён распачаў у польскай школе ў Арлянятах. Пазьней вучыўся ў Вішнеўцы і Крэве. Настаўніцкую семінарыю ў Барунах скончыць не пасьпеў — закрылі польскія ўлады, падазроныя да любой патрыятычнай актыўнасьці. «Галоўнае, там была беларуская мова! Але ёй мала вучылі, былі толькі пачаткі»,— так а. Уладзіслаў успамінаў тыя часы.

Спроба трапіць у школу лётчыкаў у польскім Быдгашчы была няўдалая — не ўзялі з прычыны слабога здароўя. Добра, што дзядзька-сьвятар, Францішак Чарняўскі, дапамог радай і грашыма паступіць у пяты клас Друйскай гімназіі. Менавіта ў Друі спаткаў а. Андрэя Цікоту, які меў вялікі ўплыў на агульначалавечае й сьвятарскае фармаваньне маладога Чарняўскага. Айцец-марыянін Люцыян Паўлік, успамінаючы пра а. Уладзіслава, сказаў: «Уладэк быў апошнім чалавекам з гвардыі а. Цікоты. Быў загартаваны духам і неадступны ў імкненьні да пастаўленай мэты».

Атмасфера добразычлівасьці й пазітыўнае стаўленьне Друйскіх марыянаў да беларускасьці пераканалі У.Чарняўскага пасьля заканчэньня вучобы ўступіць у іхнія шэрагі.

*Працяг на с. 6* ⇨

# Спрэчкі вакол статусу Сафійскага сабору ў Полацку

***Камітэт па справах рэлігіі пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь выступіў з ініцыятывай перадаць да 1 сакавіка 2002 году Полацкі Сафійскі сабор Расейскай Праваслаўнай Царкве, аднак гэтая прапанова выклікала адмоўную рэакцыю ня толькі ў вернікаў Полацкай грэка-каталіцкай грамады, але і ў Полацкім гарвыканкаме, а сьледам за ім і ў абласных уладаў, якія накіравалі адпаведныя лісты на адрас ураду.***

Сафійскі сабор, як музей гісторыі архітэктуры і канцэртная зала арганнай музыкі, зьяўляецца асноўным суб'ектам Полацкага гісторыка-культурнага запаведніка. У саборы пастаянна праводзіцца праца па патрыятычным і эстэтычным выхаваньні людзей, часта гучаць канцэрты арганнай, класічнай і камернай музыкі, праходзяць міжнародныя і рэспубліканскія музычныя фестывалі. Штогод з экспазіцыяй Сафійскага сабора знаёміцца больш за 250 тысячаў чалавек, у год праходзіць больш за 400 канцэртаў.

*Працяг на с.16* ⇨

[illegible]

## НОВЫ ПРАВАСЛАЎНЫ СЬВЯТЫ – ЗМАГАР З УНІЯЙ

***31 студзеня Сьвяты Сінод Беларускай Праваслаўнай Царквы уключыў у сьпіс мясцова-шанаваных сьвятых архідыякана Нікіфара Кантакузена, экзарха Ўсяленскага Патрыярхату. У канцы XVI стагоддзя гэты грэк з Канстанцінопаля адыграў вялікую ролю ў арганізацыі супраціву Уніі.***

Пасьля вучобы ў Падуанскім унівэрсітэце і выкладчыцкай працы Нікіфар прыняў сан дыякана, сем гадоў праслужыў у Венецыі і ў пачатку 1580-х гадоў вярнуўся ў Канстанцінопаль. На радзіме ён адразу ўключыўся ў актыўнае царкоўнае і палітычнае жыцьцё, стаў верным памочнікам патрыярха Ераміі. Яшчэ ў 1583 годзе падчас сваёй паездкі ў Малдавію для збору сродкаў у патрыяршую казну Нікіфар актыўна выступаў супраць спробаў рэфармаваньня Праваслаўнай Царквы шляхам увядзеньня Уніі.

У выніку царкоўна-палітычных інтрыгаў патрыярхі ў Канстанцінопалі ў тыя часы мяняліся ці ня кожны год. Патрыярх Ерамія быў сасланы на Родас. Як аднаго з актыўных удзельнікаў гэтых інтрыгаў, Нікіфара таксама адправілі ў ссылку на востраў Кіпр, але хутка ён зьбег. Дзякуючы намаганьням дыякана Нікіфара патрыярх Ерамія змог зноў вярнуцца на пасад.

Калі Ерамія вырушыў па грашовую дапамогу ў Русь, сваім намесьнікам ён пакінуў Нікіфара. І дыякан Нікіфар на працягу трох гадоў кіраваў справамі Канстанцінопальскага Патрыярхату, што стала ці не адзіным падобным выпадкам за ўсю царкоўную гісторыю.

Першай вялікай акцыяй Нікіфара ў барацьбе з Уніяй быў выступ на саборы ў Ясах летам 1595 году. Ягонымі намаганьнямі быў адлучаны япіскап Георгі Магіла, які праводзіў уніяцкую лінію, а на малдаўскі пасад пастаўлены ягоны брат Ерамія Магіла. Па прыезьдзе ў Рэч Паспалітую экзарха Нікіфара арыштоўваюць па падазрэньні ў шпіёнстве на карысьць варожае Турцыі. Адсядзеўшы ў заключэньні паўгода, Нікіфар па вяроўцы спускаецца са сьценаў крэпасьці і ўцякае. У кастрычніку 1596 году ён прыязджае ў Берасьце, дзе адбываўся царкоўны сабор. Узначаліўшы яшчэ на саборы партыю праваслаўных, нязгодных на Унію, грэк Нікіфар прыклаў шмат намаганьняў, каб нейтралізаваць яе спакойнае разьвіцьцё. Ён знайшоў прытулак у князя Канстанціна Астрожскага, выкладаў у Астрожскай акадэміі. У хуткім часе польскія ўлады зноў абвінавацілі яго ў шпіёнстве на карысьць Турцыі ды іншых злачынствах, якія забясьпечвалі сьмяротнае пакараньне: чарнакніжжа, забойства, чужаложства з маці султана. Ён спрабаваў гэта аспрэчыць, аднак яго ўвязьнілі ў замку Мальбарк, дзе ён праз два гады (у 1599 г.) памёр.

На працягу некалькіх стагоддзяў архідыякана Нікіфара асабліва ніхто ня згадваў. Пасьля аднаўленьня структураў Грэка-Каталіцкай Царквы першымі вырашылі ўславіць яго ў верасьні 2001 году ў Львоўскай япархіі Украінскай Праваслаўнай Царквы Маскоўскага Патрыярхату. Цяпер кананізавалі яго і ў Беларусі. Днём памяці архідыякана Нікіфара прызначана 3-я Нядзеля пасьля Пяцідзясятніцы, калі сьвяткуецца памяць Сабору Беларускіх сьвятых. ❑

# Дзень малітвы за супакой у сьвеце

***24 студзеня ў італійскім горадзе Асізі, на радзіме сьв. Францішка Асізскага і сьв. Клары, ужо ў другі раз, па ініцыятыве Сьвятога Айца Яна Паўла II Папы Рымскага, адбыўся Дзень малітвы за мір, які аб'яднаў лідараў практычна ўсіх сусьветных рэлігіяў.***

Адной з галоўных задачаў, якую ставілі перад сабою арганізатары сустрэчы, было жаданьне засьведчыць, што аўтэнтычныя сусьветныя рэлігіі аднагалосна асуджаюць тэрарызм, праявы гвалту і масавыя забойствы, якія ніколі не былі часткаю іхніх вучэньняў. Усе сусьветныя рэлігіі ў сваіх дактрынальных асновах абвяшчаюць патрэбу мірнага суіснаваньня.

Каб засьведчыць сваю гатоўнасьць да дыялогу і мірнага суіснаваньня, усе запрошаныя (некалькі сотняў) сабраліся на плошчы сьв. Францішка. Прывітальнае слова сказалі прадстаўнікі Англіканскай Царквы і Цэркваў, што паўсталі пасьля Рэфармацыі, Праваслаўнай Царквы і юдаізму, індуізму і будызму, ісламу і афрыканскіх традыцыйных рэлігіяў. Напрыканцы выступіў Сьвяты Айцец, які зьвярнуўся да ўсіх прысутных: «Дарагія браты і сёстры! Мы прыбылі сюды з розных канцоў сьвету як прадстаўнікі розных рэлігіяў, каб прасіць Бога пра дар супакою... Для гэтага хочам слухаць адзін аднаго, каб адказаць на пытаньні, якія хвалююць нас усіх». Рымскі Архірэй зьвярнуў увагу на неабходнасьць адкрыць сэрцы для таго, каб пазнаць праўду пра саміх сябе, а таксама адзначыў важнасьць павагі да каштоўнасьцяў чалавечага жыцьця, бо «зьнявага чалавека — гэта зьнявага Бога».

Пасьля шматлікіх сьведчаньняў прадстаўнікоў сусьветных рэлігіяў і хрысьціянскіх дэнамінацыяў усе ўдзельнікі Дня міру разышліся па дзевяці адмыслова вызначаных месцах, каб у розных формах, але з адным і тым самым намерам, маліцца пра супакой ва ўсім сьвеце.

Пасьля малітвы і брацкай трапезы лідары сусьветных рэлігіяў зноў сабраліся на плошчы сьв.Францішка, каб сумесна абвясьціць сымбалічную дэкларацыю пра мір, якую на ангельскай, арабскай і італійскай мовах зачытаў Прэзідэнт папскай Рады міжрэлігійнага дыялогу кардынал Фрэнсіс Арынзэ. Прадстаўнікі розных рэлігіяў склалі ў 10 пунктах абавязкі да канкрэтных дзеяньняў дзеля абароны міру і гармоніі між людзьмі.

Самым кранальным момантам гэтай сустрэчы стала сымбалічнае запальваньне лампадак і пацалунак міру, якія яскрава засьведчылі пра адкрытасьць сэрцаў і гатоўнасьць да мірнага суіснаваньня прадстаўнікоў усіх сусьветных рэлігіяў.

# Экуменічны рух рызыкуе згубіць маладых людзей

***Прэзідэнт Папскай Рады па спрыяньні еднасьці хрысьціянаў кардынал Вальтар Каспэр нядаўна падрыхтаваў зварот, у якім ён дае ацэнку экуменізму. «Экуменічны рух рызыкуе згубіць маладых людзей, калі мы ня зможам даць ім новае ўяўленьне пра экуменізм»,— лічыць ён. «У значнай ступені, крызіс экуменічнага руху — гэта вынік ягонага посьпеху,— піша нямецкі кардынал.— Чым больш мы набліжаемся адзін да аднаго, тым мацней мы адчуваем тое, што яшчэ не дасягнута поўная еднасьць, з-за чаго ўзьнікае пэўная незадаволенасьць і расчараваньне».***

У сувязі з гэтым ён бачыць тры асноўныя задачы: «Па-першае, мы павінны садзейнічаць экуменічнаму разьвіцьцю і ўспрыняцьцю экуменічных дасягненьняў. Вынікі экуменічнага прагрэсу павінны жывіць цела й сэрца нашай Царквы ды іншых Цэркваў. Па-другое, мы павінны высьветліць і абнавіць экуменічную перспэктыву. Нам неабходны новая экуменічная мова ды імпульс. Мы рызыкуем згубіць цэлае пакаленьне моладзі, калі ня здолеем даць ім новае ўяўленьне пра гэты рух. Па-трэцяе, неабходна гарманізацыя дыялогу ды індывідуальнасьці». У гэтай сувязі кардынал Вальтар Каспэр падкрэсьлівае, што кожны можа пабачыць праблемы й перавагі *«Dominus Iesus»* — дакументу, які разглядае пытаньне індывідуальнасьці. *«Dominus Iesus»* — гэта дэкларацыя пра ўнікальную і збаўленчую ўнівэрсальнасьць Ісуса й Царквы, якая была прынята ў жніўні 2000 году Кангрэгацыяй навукі веры. «Мы павінны адназначна падкрэсьліць, што сур'ёзны экуменізм адрозьніваецца ад канфесійнай абыякавасьці і рэлятывізму; ён імкнецца да найвышэйшай агульнай рысы», — заявіў кардынал Каспэр.

Затым ён зрабіў агляд стасункаў каталікаў з іншымі хрысьціянскімі канфесіямі. «Мы ўсё больш усьведамляем той факт, што Праваслаўная Царква (як адзіная) у сапраўднасьці не існуе. На дадзеным этапе Канстанцінопаль ня можа аб'яднаць аўтакефальныя Праваслаўныя Цэрквы; існуюць сумненьні адносна й першынства шанаваньня, асабліва ў Маскве».

«У дадзены момант дыялог з Масквой уяўляецца праблематычным; становішча справаў паляпшаецца ў Грэцыі; на Блізкім Усходзе, на тэрыторыі старажытнага Патрыярхату Антыёхіі сітуацыя зусім іншая, і там ужо амаль поўныя еднасьць». Кардынал Вальтар Каспэр адзначае напружанасьць, якая існуе ў лютаранскім сьвеце адносна сьвятарства, а таксама гаворыць пра разнагалосьсі ў Англіканскай Царкве. Ён верыць, што праз некалькі гадоў экуменізм будзе разьвівацца хутчэй. Разам з тым, прэзідэнт Папскай Рады па спрыяньні еднасьці хрысьціянаў папярэджвае: «Мы павінны пазьбягаць прынцыпу «падзяляй і ўладар». Мы былі б уцягнуты ў кепскі экуменізм, калі б стварылі новыя падзелы ў Цэрквах і канфесійных сем'ях, або калі б імкнуліся да новай формы «ўніятызму»».

Тым ня менш, на думку кардынала Каспэра, у сёньняшняй сітуацыі іншых рэальных альтэрнатываў экуменізму няма.

# Новыя каталіцкія структуры ў Расеі

***11 лютага 2002 году Папа Рымскі Ян Павел II узьняў Апостальскія адміністратуры для католікаў лацінскага абраду ў Расеі да годнасьці япархіяў. Адразу ж Расейская Праваслаўная Царква выказала свой пратэст, а Патрыярх Маскоўскі Алексій II нават назваў гэтыя зьмены «нашэсьцем на Русь».***

Каб выказаць належную пашану япархіям Расейскай Праваслаўнай Царквы ды іхнім архіпастырам, Апостальская Сталіца назвала наваствораныя рыма-каталіцкія япархіі Расеі ў гонар сьвятых, а не гарадоў, дзе знаходзяцца іх цэнтры. Рыма-каталіцкую архіяпархію Божай Маці з цэнтрам у Маскве ўзначаліў архібіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, рыма-каталіцкую япархію Перамяненьня Гасподняга з цэнтрам у Навасібірску — біскуп Ёзаф Вэрт, рыма-каталіцкую япархію сьв. Клімента з цэнтрам у Саратаве — біскуп Клеменс Пікель, а рыма-каталіцкую япархію сьв. Язэпа з цэнтрам у Іркуцку — біскуп Ежы Мазур. Дзеля ажыцьцяўленьня сумеснай пастырскай дзейнасьці і больш эфектыўнага супрацоўніцтва згодна Кананічнаму праву заснавана мітраполія, якая аб'ядноўвае ўсе япархіі Расеі. На чале яе — мітрапаліт, зьверхнік архіяпархіі Божай Маці з цэнтрам у Маскве, архібіскуп Тадэвуш Кандрусевіч. Зьмены, якія адбыліся ў структурах Рыма-Каталіцкай Царквы ў Расеі, не парушаюць заканадаўства краіны, яны неабходныя для стварэньня нармальных умоваў для душпастырскай апекі вернікаў.

У адказ на папрокі з боку РПЦ мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч заявіў: «Мы выказваем сваё зьдзіўленьне і сур'ёзную занепакоенасьць у сувязі з умяшальніцтвам ва ўнутраныя справы Каталіцкай Царквы ў Расеі, якое апошнім часам усё больш відавочнае. Мы перакананы, што католікі Расейскай Фэдэрацыі маюць роўныя правы з грамадзянамі, якія спавядаюць іншыя рэлігіі, а законнае карыстаньне гэтымі правамі ні пры якіх умовах не павінна публічна ставіцца пад сумнеў і быць прадметам палітычных сьпекуляцыяў».

Апостальская Сталіца з нагоды пратэстаў Маскоўскага Патрыярхату 12 лютага 2002 году таксама апублікавала ноту, у якой выкладзена гісторыя і сёньняшні стан Каталіцкай Царквы на тэрыторыі сучаснай Расейскай Фэдэрацыі. У ноце між іншым адзначаецца, што працэс «захопу» расейскай «праваслаўнай» зямлі адбываўся яшчэ ў мінулыя стагоддзі, але зусім не па волі Каталіцкай Царквы — гэта былі ссыльні вернікаў з еўрапейскіх краінаў, запланаваныя спачатку царом, а затым Сталіным. Менавіта ў выніку іх католікі былі расьцярушаны па ўсёй тэрыторыі неабдымнай Расеі. Паводле праведзеных падлікаў, на пачатку 20-х гадоў мінулага стагоддзя ў Расеі жыло каля 1,65 млн. католікаў, якія мелі 580 парфіяў ці храмаў і 397 сьвятароў. Сёньня колькасьць католікаў у Расеі складае каля 1,3 млн. «Каталіцкая Царква паважае ініцыятыву Праваслаўнай Царквы ў справе вядзеньня тых душпастырскіх структураў, якія яна лічыць патрэбнымі для забесьпячэньня рэлігійнай апекі над сваімі вернікамі, расьцярушанымі па ўсім сьвеце, за межамі Расейскай Фэдэрацыі. Пры гэтым, патрабуе такой самай павагі да сваіх крокаў, скіраваных на арганізацыю адпаведнай рэлігійнай апекі над сваімі вернікамі, якія хоць і зьяўляюцца ў значнай ступені нашчадкамі прадстаўнікоў іншых нацыянальнасьцяў, усё ж, зьяўляюцца грамадзянамі Расеі і размаўляюць, як правіла, па-расейску»,— гаворыцца ў ноце Апостальскай Сталіцы.

# Візантыйская літургія ў рыма-каталіцкім храме

Ян Павел II кажа пра дзьве вялікія традыцыі Царквы — заходнюю і ўсходнюю, якія ўзаемна дапаўняюць сябе, нібы два лёгкія ў адным арганізме. Пацьверджаньнем гэтай праўды стала незабыўная падзея — Служба Божая ў візантыйска-украінскім абрадзе, якая была адслужана ў рыма-каталіцкім храме сьв. Андрэя Баболі ў Любліне (Польшча) 20 лютага 2002 году. У гэты дзень тут адбылася ўрачыстая Боская Літургія сьв. Яна Залатавуснага ў падзяку за беатыфікацыю летась блаславёнага а. Амільяна Коўча — грэка-каталіцкага навамучаніка, які за абарону габрэяў падчас вайны быў увязьнены й загінуў у канцлагеры Майданэк 25 сакавіка 1944 году.



• 20.02.2002, Люблін. Першаярарх УГКЦ узначальвае ўрачыстую Літургію падзякі ў касьцёле сьв. Андрэя Баболі.

Узначальваў набажэнства Першаярарх УГКЦ Кардынал Любамір Гузар. На Літургіі сабраліся разам хрысьціяне двух традыцыяў — візантыйскай і лацінскай. Былі таксама сьвятары армянскага абраду. Ва ўрачыстасьцях бралі ўдзел прадстаўнікі Апостальскай Сталіцы, некалькі дзясяткаў біскупаў і сьвятароў з Польшчы, Украіны, Беларусі, Чэхіі і Славакіі. Групу беларускіх грэка-католікаў узначальваў Апостальскі Візітатар архімандрыт Сяргей Гаек.

Падобная супольная малітва — гэта яшчэ адзін крок на шляху да ўзаемапазнаньня і будаваньня братэрства.

## У Беларусі

### ПРАВАСЛАЎНЫЯ ДАПОЎНІЛІ САБОР БЕЛАРУСКІХ СЬВЯТЫХ

Разам з праслаўленьнем новага сьвятога архідыякана Нікіфара Сьвяты Сінод Беларускага Экзархату РПЦ уключыў у Сабор Беларускіх сьвятых дзевяць іменаў раней праслаўленых угоднікаў Божых, якія былі зьвязаныя з Беларусьсю сваім паходжаньнем ці служэньнем. Сярод іх: сьвяты мучанік Макары, мітрапаліт Кіеўскі; сьвяты мучанік Мітрафан, архіяпіскап Астраханскі;сьвяты мучанік Гаўрыла, архіяпіскап Разанскі; сьвяты мучанік Іаан, архіяпіскап Рыжскі; дабраверны князь Барыс Тураўскі; вялебны князь Фёдар Астрожскі; вялебная Харыціна, княжна Літоўская; вялебны Генадзь Магілёўскі; дабраверная Еўпраксія Полацкая.

Магчыма, у бліжэйшы час Сабор Беларускіх сьвятых дапоўніцца яшчэ адным імем — архімандрыта Віленскага Лявонція Карповіча. ❑

### «ГОЛАС ДУШЫ» ЗНОЎ ГУЧЫЦЬ

***Закрыцьцё хрысьціянскай перадачы «Голас душы», якую вёў у наўпроставым эфіры на 1-й праграме Беларускага радыё кс. магістр Уладзіслаў Завальнюк, выклікала вялікае абурэньне ў беларускіх вернікаў, і ня толькі католікаў.***

Перадачу, падчас якой з Чырвонага касьцёлу трансьлявалася беларуская Імша, любілі слухаць у розных кутках Беларусі. І хоць фармальнай прычынай для закрыцьця сталася новае палажэньне закону аб друку і СМІ, многія ўбачылі ў гэтым палітычную каньюнктуру, бо на працягу 2 гадоў пасьля прыняцьця зьменаў у законе на гэта не зьвярталі ўвагі. Пасьля закрыцьця перадачы ў касьцёле сьв. Сымона і Алены некалькі тыдняў перад пачаткам нядзельнага набажэнства а 11-й гадз., якое раней ішло ў наўпроставы эфір, гучала жалобная музыка. І ўсё ж актыўныя пратэсты вернікаў (некаторыя нават цэлымі акругамі пісалі лісты з намерам у знак пратэсту адмовіцца ад радыёкропак) прымусілі ўлады пайсьці на кампраміс з кіраўніцтвам Рыма-Каталіцкай Царквы ў Беларусі.

З нядзелі 27 студзеня 2002 году перадача «Голас душы» зноў пачала выходзіць, але ў 8.30 гадз. і ў запісе. Сьв. Імша цяпер запісваецца ў менскім катэдральным храме Імя Найсьвяцейшай Панны Марыі. Згодна ўведзенаму новаму правілу, Еўхарыстыю служаць па чарзе розныя рыма-каталіцкія сьвятары з усёй Беларусі.

Сітуацыя з закрыцьцём «Голасу душы» сьведчыць, наколькі далікатна трэба дзейнічаць дзяржчыноўнікам, каб не справакаваць канфлікту на рэлігійнай глебе ў спакойнай Беларусі. У гэтай сувязі выклікаюць непакой падрыхтаваныя чыноўнікамі зьмены ў новым праекце закону аб свабодзе веравызнаньняў. На думку як пратэстантаў, так і католікаў, асобныя палажэньні значна абцяжарваюць заснаваньне новых рэлігійных арганізацыяў і абмяжоўваюць іх дзейнасьць. ❑

*Інфармацыя падрыхтавана паводле паведамленьняў Агенцтва рэлігійнай інфармацыі (АРІ), FIDE, AGNUZ і іншых прэсавых крыніцаў.*

## Памяці сьвятара – руплііўца беларушчыны

⇨ Заканчэньне са с.3

Навіцыят, які ён распачаў у 1937 г. у Друі, давялося скончыць у Скурцу, што на Падляшшы, бо паводле загаду віленскага ваяводы Бацянскага й маўклівай згоды віленскага мітрапаліта Ялбжыкоўскага паліцыя вывезла ўсіх сьвятароў з Друі ў поле і забараніла вяртацца ў кляштар, які знаходзіўся непадалёку ад савецкай мяжы. Гэты балючы досьвед перасьледу за беларускасьць пакінуў негатыўны адбітак у памяці а. Уладзіслава. Пад старасьць ён ня мог бяз сьлёзаў расказваць пра тыя падзеі.

II Сусьветная вайна прынесла новыя праблемы. Давялося некалькі разоў зьмяніць месца вучобы — Вільня, Каўнас, зноў Вільня. Нямала паперажываў У.Чарняўскі і з-за сьвятарскіх сьвячаньняў, бо Віленскі архібіскуп Рамуальд Ялбжыкоўскі ў нацыянальным плане быў настроены катэгарычна і, ведаючы адданасьць а. Уладзіслава беларушчыне, адмовіўся высьвячаць яго. Высьвяціў яго біскуп Мечыслаў Райніс, 24 студзеня 1944 году ў Вільні. Сваю першую імшу а. Уладзіслаў Чарняўскі адслужыў у Крэве. А да гэтага 15 жніўня 1938 году ён склаў першыя манаскія зарокі, а роўна праз 3 гады — вечныя зарокі.

Пасьля сьвячаньняў лёс на дзевяць гадоў зьвязаў а. Уладзіслава з Літвой. Давялося працаваць у цяжкіх умовах партызанскай барацьбы літоўскага народу з савецкім рэжымам. Кожны сьвятар у вачах уладаў быў патэнцыйным хаўрусьнікам так званых «лясных братоў». Айцу Уладзіславу давялося не аднойчы пабываць на допытах у НКВД. Прафілактычнымі гутаркамі справа ня скончылася — Саветы адабралі плябанію і зямлю, з якой утрымліваліся пробашчы парафіі.

Месцы ягонай працы ў Літве — Укмерге, Эйнішкес, Варэна, Эйшышкі — знаходзіліся пры беларускай мяжы. Таму з Беларусі, з апусьцелых парафіяў, да айца Уладзіслава Чарняўскага прыязджалі шматлікія дэлегацыі. Пераконвалі, каб ён вярнуўся на Бацькаўшчыну, дзе ўвесь час неставала сьвятароў. Ён згадзіўся, але з умовай, што будзе гаварыць па-беларуску. З гэтай прычыны давялося пакутаваць ад усіх: парафіяне і ксяндзы баяліся беларускай мовы, асобныя нават лічылі а. Уладзіслава камуністам; савецкія ўлады, са свайго боку, баяліся ягоных сьмелых праяваў патрыятычнасьці. Польскія ксяндзы, для якіх католік з Заходняй Беларусі заўсёды быў палякам, каб нашкодзіць а. Чарняўскаму, пісалі паклёпы ды падбухторвалі супраць яго вернікаў. Улады доўга не хацелі прапісваць яго ў Вішневе, куды ён прыехаў працаваць у 1954 годзе, неаднойчы забаранялі на некалькі месяцаў служыць.

Айцец Уладзіслаў, не зважаючы на перасьлед, размаўляў з вернікамі па-беларуску ды ў храме пачаў на роднай мове чытаць Евангельле і казаць навукі. Практычна ён быў адзіны ў Беларусі сьвятар, які з сярэдзіны 50-х да канца 80-х гг. стала служыў па-беларску. У тыя цяжкія для беларускай культуры гады касьцёл у Вішневе і дом а. У.Чарняўскага былі адным з нешматлікіх астраўкоў, дзе яшчэ квітнела беларушчына. Аднак а. Уладзіслаў быў уважлівы й на патрэбы іншых людзей і, калі трэба было, ня грэбаваў і польскай мовай.

Працы пабольшала пасьля ад'езду сьвятароў з суседніх парафіяў. Касьцёлы ў навакольлі — Валожыне, Трабах, Гальшанах, Крэве — стаялі асірацелыя.

У сьнежні 1967 году, па запрашэньні тагачаснага Генерала Айцоў Марыянаў біскупа Часлава Сіповіча, а. Уладзіслаў Чарняўскі наведаў Рым. Паездка была багатая на новыя ўражаньні й абавязкі. Папа Павел VI на сьпецыяльнай аўдыенцыі зрабіў а. Чарняўскага дарадцам Сьвятой Кангрэгацыі Абрадаў і даручыў тлумачэньне на беларускую мову Бібліі і літургічных тэкстаў.

Заданьне Сьвятога Пасаду а. Уладзіслаў выканаў больш чым удала — пераклаў з Вульгаты (тагачасны афіцыйны пераклад у Рыма-Каталіцкай Царкве) Біблію, падрыхтаваў лекцыянар ды Імшал. На жаль, не атрымалася перадаць тэксты ў Ватыкан, а пра друкаваньне ў Беларусі не магло быць гаворкі — не спрыяла палітычная сітуацыя ў Савецкім Саюзе. Сёньня, калі а. Уладзіслава няма з намі, пабачылі свет ягоныя пераклады Катэхізмоўкі, Кнігі Роду і Новага Запавету. Падрыхтаваны ім Імшал стаў асновай для новых перакладаў Літургічнай камісіі, а на пачатку 90-ых гадоў дапамог распачаць служэньне Літургіі па-беларуску.

Лёс ня песьціў а. Уладзіслава. Хіба наадварот, без перапынку змушаў да барацьбы за права быць сьвятаром і як сьвятар служыць людзям, за права быць беларусам у Беларусі, за права маліцца ў храме на роднай мове і быць католікам. Супярэчлівасьці жыцьця пакінулі ў душы а. Уладзіслава сьлед цэлай эпохі. Эпохі братазабойчых войнаў, таталітарных рэжымаў, нецалеранцыі да чалавека іншай нацыянальнасьці, сьветапогляду і веравызнаньня. Важна, каб а. У.Чарняўскі ня стаўся для беларускіх хрысьціянаў і інтэлігенцыі проста яшчэ адной легендай пабожнасьці і патрыятызму. Яго спадчына мае канкрэтнае духоўнае і культурнае вымярэньне. Першай ластаўкай надзеі на тое, што даробак а. Уладзіслава ня згіне, можна лічыць вестку пра падрыхтоўку да друку Сьвятога Пісаньня ў ягоным перакладзе. Хацелася б бачыць у гэтай падзеі знак новай рэчаіснасьці ў Каталіцкай Царкве — пачатак дыялогу з беларускай культурай і адыход ад згубнага ды небясьпечнага падыходу да каталіцтва ў Беларусі, як зьявы выключна польскай дыяспары.

**Андрэй Сідаровіч**
г.Люблін



• Вішнева. Разьвітаньне з а. Уладзіславам Чарняўскім.

## Даравáць, каб не была цяжарам мінуўшчына

***Падчас трыюмфальнага візіту Сьвятога Айца Яна Паўла II ва Ўкраіну 24-27 чэрвеня 2001 году адбылася знакавая падзея, на якую журналісты тады мала зьвярнулі ўвагі ў сваіх рэпартажах — Галава УГКЦ папрасіў прабачэньня за грахі і правіны сваіх вернікаў.***

Цалкам зразумела, што больш увагі ўдзялялася выдатнай постаці Яна Паўла II, ягоным экуменічным спатканьням і казаньням, а таксама навамучанікам Царквы, якіх беатыфікаваў Папа, рэакцыі жыхароў Украіны (асабліва праваслаўных) на прыезд да іх Рымскага Архірэя.

Хочам, аднак, зьвярнуць увагу на словы, якія сказаў 27 чэрвеня 2001 году перад сьв. Літургіяй у Львове, у прысутнасьці Сьвятога Айца і 1,5 мільёна вернікаў, Вярхоўны Архібіскуп Львоўскі Кардынал Любамір Гузар. У сваім прывітальным слове да Папы, дзякуючы Богу за магчымасьць аднавіць нармальнае жыцьцё Царквы і за беатыфікацыю грэка-каталіцкіх навамучанікаў, Уладыка Любамір ад імя ўсёй Грэка-Каталіцкай Царквы папрасіў даравáць за грахі і правіны сыноў і дачок Царквы. Вось урывак з прывітальнага слова кардынала Гузара:

*«[...] Можа, выглядае дзіўным, незразумелым і супярэчлівым у такі момант праслаўленьня Ўкраінскай Грэка-Каталіцкай Царквы згадаць таксама, што гісторыя мінулага стагоддзя нашай Царквы знала таксама й цёмныя і духоўна трагічныя моманты. Яны былі ў тым, што некаторыя сыны і дочкі Ўкраінскай Грэка-Каталіцкай Царквы, на вялікі жаль, сьвядома і дабравольна нанесьлі крыўду сваім бліжнім з шэрагаў свайго роднага народу ці іншых народаў. За іх усіх, у тваёй прысутнасьці, Сьвяты Ойча, ад імя Ўкраінскай Грэка-Каталіцкай Царквы хачу прасіць аб прабачэньні ў Госпада, Творцы і Айца нас усіх, як таксама і ў тых, каго мы, сыны й дочкі гэтае Царквы, нейкім чынам пакрыўдзілі. Каб не была цяжарам над намі жахлівая мінуўшчына і не атручвала нашае жыцьцё, мы з радасьцю даруем тым, хто нейкім чынам крыўдзіў і нас. Мы перакананыя, што ў духу ўзаемнага дараваньня мы зможам спакойна прыступіць да гэтага супольнага з Табою служэньня Боскай Літургіі ў спадзяваньні, што гэтак са шчырай і моцнай надзеяй уступаем у новае і лепшае стагоддзе.*

*Ужо сёньня, Сьвяты Ойча, перад табою ў любові і пакоры стаіць Царква, якая гатова да зьдзяйсьненьня новых задачаў, якія вынікаюць з нашай багаоснай усходняй традыцыі й царкоўнага кіраваньня, а таксама з пачэснага нашага абавязку перад усёй Паўсюднай Царквой».*

У час Вялікага посту, і ў час, калі праваслаўна-каталіцкі дыялог напаткаў сур'ёзны крызіс, варта прыгадаць гэтыя словы прабачэньня Зьверхніка УГКЦ і, каб ісьці далей у няпростым шляху да еднасьці ўсіх хрысьціянаў,— наўзаем шчыра даравáць адзін аднаму ўсе мінулыя крыўды і будаваць новыя адносіны.

# Усходнія каталіцкія Царквы сьведчаць пра сваю сьпецыфіку

На апошнім Сінодзе біскупаў, які адбыўся ў Рыме ўвосень мінулага году, дзе тэмай для абмеркаваньня было біскупскае служэньне, прадстаўнікі ўсходніх каталіцкіх Цэркваў (іх было зусім няшмат — трохі больш за 20), актыўна сьведчылі пра сваю сьпецыфіку.

Кардынал Ігнат Майсей І Дауд, Прэфект Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў, унёс некалькі дапаўненьняў, якія стасуюцца ўсходніх каталіцкіх Цэркваў, у сінадальны дакумент «Instrumentum Laboris». Адносна пытаньня пра суадносіны паміж калегіяльнасьцю і сінадальнасьцю кардынал Ігнат Майсей падкрэсьліў, што ўсходнія Цэрквы ўнутры Каталіцкай Царквы карыстаюцца сьпецыяльным кодэксам кананічнага права, якія адаптаваны да ўсходніх рэаліяў: «Нашыя патрыярхальныя Цэрквы sui iuris (свайго права) жывуць паводле прынцыпу калегіяльнасьці біскупаў у сулучнасьці, эфектыўнай і дзейснай, з Рымскай Царквою і яе Біскупам ды таксама з іхнімі братамі з той самай тэрыторыі, на якой яны жывуць, і якія таксама жывуць там сінадальна. Сінод біскупаў усходніх патрыярхатаў, у яго пашыраным паняцьці, мы разумеем як спосаб увасабленьня калегіяльнасьці біскупаў, санкцыянаваны на першых Усяленскіх саборах (напрыклад, Нікейскім у 325 годзе, канон 6 і 7), узбагачаны доўгім і памножаным досьведам усходніх Цэркваў. На ІІ Ватыканскім саборы таксама падкрэсьлівалася, што ўсходнія патрыярхаты народжаныя «Сьвятым провідам» *(Lumen Gentium, § 23)*.



• *Папа Ян Павел ІІ у Дамаску 7.05.2001 сярод біскупаў грэка-мельхіцкага Антыяхійскага Патрыярхату.*

Што да душпастырства вернікаў у дыяспары Прэфект Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў адзначыў, што ўсходні каталіцкі біскуп часта пастаўлены перад фактам эміграцыі хрысьціянаў, асабліва маладых: «Усходнія каталіцкія Цэрквы, у прыватнасьці, Блізкага Ўсходу, сёньня пастаўлены перад фактам трагедыі — эміграцыі іхніх вернікаў і рызыкуюць усё больш і больш быць такімі ў будучыні. Асобныя Цэрквы налічваюць ужо больш вернікаў у дыяспары, чым на традыцыйных тэрыторыях! Гэты факт вельмі балючы для нашых Цэркваў і для хрысьціянскай прысутнасьці, зусім малалікай у гэтай частцы сьвету. Але гэта азначае яшчэ й тое, што ўсходнія каталіцкія Цэрквы павінны быць у стане эфектыўна арганізаваць уласнае душпастырства, прыймальнае для іхніх вернікаў у сітуацыі дыяспары, зразумела, у сулучнасьці і рэальнай узгоджанасьці з біскупамі іншых мясцовых дзейных Цэркваў».

Падчас разгляду пытаньня пра выбары біскупаў ва ўсходніх каталіцкіх Цэрквах кардынал-прэфект нагадаў, што «біскупскае пакліканьне належыць да сьвятога выбару і біскуп творыцца сакральным абрадам ардынацыі, у якой бы традыцыі гэта не адбывалася — усходняй ці заходняй». Але што да таго, хто творыць біскупаў, г. зн. хто іх прызначае, хто называе, хто абірае, хто рыхтуе біскупскія сьпісы, хто арганізоўвае папярэднія кансультацыі — тут суіснуюць на працягу гісторыі Царквы дзьве розныя легітымныя традыцыі,— адзначыў кардынал Ігнат Майсей І Дауд. Усходняя традыцыя санкцыянуецца Ўсяленскімі саборамі і папскімі дакументамі, дадзенымі сіноду біскупаў Царквы, якой належыць кампетэнтнасьць абраньня біскупаў.

«Выбары біскупа ва ўсходняй традыцыі... ёсьць творам калегіяльнай салідарнасьці і адказнасьці, якая абірае, прызначае, творыць біскупа. Абавязковай ёсьць патрэба давяраць кананічнаму дасьледаваньню, зьдзейсьненаму патрыярхам і біскупамі сіноду, і аднавіць старую практыку, каб выбары біскупаў адбываліся на традыцыйнай патрыярхальнай або пазапатрыярхальнай тэрыторыі з тым, каб імя біскупа, абранага сінодам, магло быць неадкладна апублікавана, а сам новаабраны біскуп затым прасіў Папу узгадніць з ім царкоўную сулучнасьць»,— падкрэсьліў Прэфект Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў кардынал Ігнат Майсей І Дауд.

Патрыярх Антыяхійскі для грэка-католікаў Рыгор ІІІ Лагам падчас асамблеі Сіноду, выказаў сваю катэгарычную нязгоду з лацінізацыяй усходніх Цэркваў і заўважыў, што Рымская Царква рызыкуе страціць «экуменічны давер», калі будзе трымацца гэтага шляху.

У сваім выступе Рыгор ІІІ Лагам найперш акцэнтаваў увагу на тым, што «не зьяўляецца карэктным атаясамленьне патрыярхальнага Сіноду з Біскупскай канферэнцыяй», паколькі гаворыцца пра «цалкам усходнюю інстытуцыю».

«У сінадальным дакуменце «Instrumentum Laboris» ідзе гаворка пра «асаблівую пашану да патрыяршага тытулу,— працягваў ён.— Але размовы пра патрыяршыя прывілеі толькі зьмяншаюць традыцыйную ролю патрыярха. Пры ўсёй павазе да місіі наступніка сьв. Пятра, нагадаю, што патрыярхальная місія зьяўляецца эквівалентнай ёй у арыентальнай (усходняй) эклезіялогіі... Патрыяршая місія ня ёсьць рымскім утварэньнем, ня ёсьць вынікам прывілеяў, наданых або скасаваных Рымам,— такая канцэпцыя можа толькі руйнаваць стасункі з праваслаўем». Да таго часу, пакуль гэта ня будзе прымацца да ўвагі ў рымскай эклезіялогіі, дадаў Антыяхійскі Патрыярх, датуль ня будзе прагрэсу ў экуменічным дыялогу.

«Мы занадта доўга чакалі на ўвасабленьне палажэньняў ІІ Ватыканскага сабору, энцыклік і лістоў Яна Паўла ІІ, што прывяло да страты даверу да добрае волі Рымскай Царквы ў экуменічным дыялогу»,— завершыў свой выступ Антыяхійскі мельхіцкі Патрыярх Рыгор ІІІ Лагам. Кардынал Любамір Гузар, Вярхоўны Архібіскуп украінскіх грэка-католікаў таксама заявіў пра сваю згоду з Антыяхійскім Патрыярхам. На яго думку, сапраўды патрэбна сур'ёзна перагледзець ролю й месца ўсходніх Цэркваў, «у іншым выпадку праваслаўныя ня будуць успрымаць нас усур'ёз».

Ігнат Пётр VIII Абдэль Агад, Патрыярх Антыяхійскі для сіра-католікаў, заявіў, што, на ягоную думку, «біскуп павінен намагацца ўратаваць тое, што ён можа ўратаваць з нешматлікай рэшты хрысьціянаў, якія яшчэ засталіся на Блізкім Усходзе». «Ён (біскуп) зьяўляецца абаронцам хрысьціянскай супольнасьці хутчэй, чым цывільныя ўлады. Менавіта яму належыць задача абароны цывільных правоў, і, у некаторых краінах, ён зьяўляецца практычна палітычным лідарам, які, не зважаючы на цярпеньні, якія яму гэта прыносіць, пратэстуе супраць усяго, што парушае дэмакратыю, свабоду й незалежнасьць ягонай краіны».

Акрэсьліваючы сваю місію на Сінодзе біскупаў у Рыме, мельхіцкі Патрыярх Рыгор ІІІ Лагам адзначыў, што, нягледзячы на невялікую колькасьць прадстаўнікоў усходніх Цэркваў, іхні ўплыў важкі: «Мы ёсьць тут для таго, каб заявіць пра існаваньне так званых «праваслаўных плюс», а менавіта — праваслаўных, якія ёсьць таксама католікамі!» Кардынал Любамір Гузар сказаў на Сінодзе, што ён задаволены «скарачэньнем лацінскага патэрналізму» і ўсьведамленьнем таго факту, што ўсходнія Цэрквы ня ёсьць «музейным экспанатам, а жывой часткай Царквы, якой патрэбна аддаваць належнае ў інтарэсах самой Царквы».

***Паводле АРІ***

# Новы малітоўнік айца Аляксандра Надсана – 800 старонак беларускіх пабожных тэкстаў!

*Увосень 2001 году Апостальскі візітатар для беларусаў замежжа айцец Аляксандр Надсан скончыў шматгадовую працу над складаньнем грэка-каталіцкага малітоўніка «Госпаду памолімся». Ёсьць спадзяваньне, што вернікі змогуць набыць гэты малітоўнік на Пасху 2002 году. Выданьне мае 800 старонак, што само па сабе сьведчыць аб грунтоўнасьці выданьня. Можна ўжо сёньня сказаць, што гэта неардынарная падзея ў беларускай рэлігійнай культуры.*

Беларускіх малітоўнікаў у XX стагоддзі выйшла ня так шмат. Скажам, суседнія палякі маюць тысячы розных выданьняў, а беларуская традыцыя налічвае ўсяго некалькі дзясяткаў падобных кніжак. Вось што гаворыць а. Аляксандр Надсан пра вытокі традыцыі выданьня беларускіх малітоўнікаў: «Многія сьвятыя, гэта значыць, тыя, хто заўсёды жыў у сьвядомасьці прысутнасьці Божай, пакінулі нам тэксты сваіх малітваў, і яны, побач з афіцыйнай малітвай царквы, зьяўляюцца невычэрпнай духоўнай скарбніцай, з якой мы ўсе карыстаем. Малітоўнікі якраз зьмяшчаюць частку гэтых вялікіх духоўных скарбаў. Малітоўнікаў ёсьць вельмі шмат на сьвеце. Іхны зьмест таксама ў вялікай меры залежыць ад укладальніка, які можа быць аўтарам усіх або часткі малітваў у гэтай кнізе. Беларускія малітоўнікі маюць сваю доўгую і ганаровую гісторыю, бо першы малітоўнік быў «Малая падарожная кніжка» Францішка Скарыны, якая выйшла ў Вільні ў 1522 годзе. Зьмест яе даволі традыцыйны, яна зьмяшчае ў сабе царкоўныя службы — Ютрань, Вячэрню, а таксама і малітвы для прыватнага карыстаньня — Псальмы, Акафісты і гэтак далей. Аўтарам некаторых малітваў быў несумненна сам Скарына. Ён таксама зьмясьціў малітвы Сьвятога Кірылы Тураўскага. Такім чынам яго кніга набыла свой мясцовы, беларускі характар. Вельмі шмат малітоўнікаў выйшла ў канцы XVI і ў XVII стагоддзях — праваслаўных і уніяцкіх. Цікава тое, што хоць малітвы былі і на царкоўнаславянскай мове, шмат тэкстаў або паясьненьняў было па-беларуску. Таксама там былі сьпецыяльныя разьдзелы, як малітвы пры Сьвятой Літургіі і заўсёды цэлы разьдзел малітваў Сьвятога Кірылы Тураўскага. Так што гэта таксама зноў жа мясцовы, беларускі характар».

Напрыканцы XVIII і ў XIX стагоддзях, калі Беларусь перажывала перыяд нацыянальнага і духоўнага заняпаду, беларускія малітоўнікі практычна не выдаваліся — было толькі некалькі маргінальных спробаў у XIX і самым пачатку XX стагоддзяў пераважна ў асяроддзі Каталіцкай Царквы выдаць асобныя малітвы па-беларуску. Традыцыя выданьня паўнацэнных малітоўнікаў аднавілася ў 1915 годзе, калі беларускі каталіцкі і грамадзкі дзяяч Баляслаў Пачопка выдаў малітоўнік «Бог з намі».

Малітоўнік а. Аляксандра Надсана «Госпаду памолімся» — грэка-каталіцкі. Вось што гаворыць сам укладальнік пра аднаўленьне уніяцкай традыцыі малітоўнікаў у XX стагоддзі: «Калі ідзе гаворка пра грэка-каталіцкія малітоўнікі, дык першы паважны малітоўнік быў «Божым шляхам» айца Льва Гарошкі, выдадзены ў Рыме ў 1946 годзе. Цікава, што я пытаўся ў яго, чаму ён не зьмясьціў там тэксту Сьвятой Літургіі, ён тады сказаў, што не хацеў зьмяшчаць, бо не было перакладу на беларускую мову. А ён хацеў, каб малітоўнік быў сапраўды беларускі».

Як бачым са словаў айца Аляксандра Надсана, уніяцкая традыцыя ў XX стагоддзі пачалася ўжо як нацыянальна бескампрамісная і адназначна беларуская — архімандрыт Леў Гарошка не ўключыў у малітоўнік тэкст Літургіі, бо тады яшчэ не было адпаведнага перакладу. Пры гэтым іншыя малітвы ён падаў у сваім рымскім малітоўніку 1946 году паралельна па-царкоўнаславянску і па-беларуску.

Выданьне малітоўніка а. Аляксандра Надсана, з увагі на яго грунтоўнасьць, можа лічыцца надзвычайнай падзеяй у беларускай культуры. Пра зьмест малітоўніка і яго задачы гаворыць ягоны ўкладальнік: «Ужо пасьля II Ватыканскага сабору, калі я пачаў перакладаць літургічныя тэксты на беларускую мову, прыйшла думка ўкласьці малітоўнік для вернікаў, каб забясьпечыць элементарныя духоўныя патрэбы беларускага грэка-каталіцкага верніка ўжо ў канцы XX стагоддзя. І гэта паўплывала на зьмест і на мову, бо мова была ўжо толькі беларуская. Хацеў я, каб малітоўнік задаволіў прыватныя патрэбы, і таму там знаходзяцца малітвы ранішнія, вячэрнія, прынагодныя, а таксама псальмы, якія заўсёды можна чытаць самому — выбраныя псальмы, безумоўна. Ёсьць таксама акафісты і каноны. Ёсьць супольныя малітвы, якія ёсьць у царкве — гэта Службы Божыя: Вячэрня, Ютрань, еўхарыстычныя малітвы — Літургіі Яна Залатавуснага, Васіля Вялікага, Раней асьвячаных Дароў, а таксама выбраныя тэксты вялікапосных, велікодных службаў і вялікіх Гасподніх сьвятаў царкоўнага году. Такім чынам вернік можа карыстацца гэтым малітоўнікам як у хаце для прыватных малітваў, так і ў царкве. Хацелася мне заўсёды, каб гэта быў беларускі малітоўнік ня толькі мовай, але і характарам, і таму я зьмясьціў там малітвы беларускіх сьвятых ці аўтараў — Сьвятога Кірылы Тураўскага, Скарыны з «Малой падарожнай кніжкі», а таксама малітвы сучасных аўтараў — айца Льва Гарошкі, айца Язэпа Германовіча, а таксама «Магутны Божа» Арсеньневай. Усяго малітоўнік будзе мець каля 800 старонак — такая сабе маленькая новая «Малая падарожная кніжка». Спадзяюся, што паколькі гэта першае такое выданьне — даволі абшырнае, яно прынамсі задаволіць самыя важныя духоўныя патрэбы нашых вернікаў, дапаможа ім жыць разам з Богам. Гэта была галоўная мэта выданьня малітоўніка».

Паўстае пытаньне: паколькі грэка-католікі маюць аднолькавы з праваслаўнымі абрад, а беларускіх праваслаўных малітоўнікаў выдадзена няшмат, дык ці не маглі б і праваслаўныя карыстацца малітоўнікам айца Надсана? Вось меркаваньне на гэты конт рэдактара малітоўніка «Госпаду памолімся», выпускніка філасофска-эканамічнага факультэту БДУ, а цяпер клерыка Грэцкай калегіі ў Рыме Сяргея Стасевіча: «Наколькі мне вядома, па-беларуску праваслаўныя выдалі толькі адзін малітоўнічак, які ёсьць брашурай, што ўтрымлівае ранішнія і вячэрнія малітвы. (Каталікі лацінскага абраду выдалі некалькі кніжак). Па сутнасьці, мы маем адзін супольны абрад. Ён называецца візантыйска-славянскі. Розьніца толькі ў дэталях. Скажам, мы маем Язафата Кунцэвіча, а праваслаўныя ня маюць».

Сяргей Стасевіч, рэдактар малітоўніка «Госпаду памолімся», лічыць, што праваслаўныя могуць спакойна карыстацца новым грэка-каталіцкім выданьнем, бо тэксты большасьці набажэнстваў супадаюць і ў прынцыпе розьніцы ніякай няма.

А вось што думаюць адносна карыстаньня малітоўнікам а. А.Надсана праваслаўныя — сакратар камісіі па перакладзе Сьвятога Пісьма Беларускага Экзархату РПЦ прафесар Іван Чарота: «Тэарэтычна, бясспрэчна, гэта можа адбывацца. І нават тут магла б узьнікаць і такая праблема, што калі гэтыя пераклады будуць мець настолькі высокі ўзровень, што ня будуць уступаць у супярэчнасьць з традыцыяй Праваслаўнай Царквы, гэта можа адбывацца ў вялікім, у значным аб'ёме. Між іншым, тут ня столькі істотная праблема канфесійнага адрозьненьня, колькі ўсё ж такі той узровень распрацаванасьці тэрміналогіі і прымальнасьці яе нават унутры адной канфесіі. Я маю на ўвазе малітоўнік, які ў нас перадрукоўваўся, перавыдаваўся ў Беларусі ўжо ў навейшыя часы,— Уладыкі Мікалая Мацукевіча. Ён ёсьць, і гэта праваслаўны малітоўнік, але сказаць, каб ім карысталіся, я пакуль што не магу. І гэта датычыцца ня толькі сьвяшчэннаслужыцеляў, але гэта датычыцца і вернікаў. Так што праблема яшчэ ёсьць і з гэтага боку — можа яна найбольшая».

Як бачым, і прафэсар Іван Чарота не выключае магчымасьці выкарыстаньня новага беларускага грэка-каталіцкага малітоўніка праваслаўнымі беларусамі. Прычым, ён сказаў таксама, што малітоўнік можа быць скарыстаны і камісіяй па перакладзе, і сьвятарамі ў літургічным жыцьці, і вернікамі ў жыцьці прыватным. Галоўнае, каб была адпаведная якасьць тэкстаў. Калі малітоўнік зьявіцца ў продажы, аб гэтым гаварыць можна будзе больш канкрэтна. Сёньня ж можна павіншаваць айца Аляксандра Надсана з заканчэньнем шматгадовай працы, адзначыць безумоўную неардынарнасьць падрыхтаванага выданьня і пажадаць новаму малітоўніку доўгага жыцьця.

***Паводле «Радыё Свабода»***
*(www.svaboda.org)*

# Наша Царква зьяўляецца каталіцкай, а гэта значыць — ўніверсальнай

Ужо каторы раз на старонках "Царквы" закранаецца канцэпцыя разьвіцьця Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы. Сапраўды, гэтае пытаньне хвалюе нашых вернікаў. Хачу выказаць некалькі сваіх меркаваньняў, якія ўзьніклі пасьля знаёмства з артыкулам Яўгена Усошына (дадатак "Разам", № 4, 2001, с.1-2).

Што мы маем на сёньняшні дзень? У адрозьненьне ад грэка-каталікоў Украіны, у нас, у Беларусі, няма традыцыі бесьперапыннага існаваньня царкоўных структураў. Была спроба адрадзіць Грэка-Каталіцкую Царкву ў міжваенны час на тэрыторыі Заходняй Беларусі, а таксама меў месца ўнійны рух у Савецкай Беларусі на пачатку 1920-ых гг. Аднак усе гэтыя спробы раней ці пазьней былі гвалтоўна спыненыя камуністычным рэжымам. Чарговае адраджэньне Уніі пачалося ў канцы 1980-ых — пачатку 1990-ых гадоў. Дзесяцігоддзі панаваньня атэістычнай улады наогул зьнішчылі ў сьвядомасьці многіх людзей якое-небудзь паняцьце пра царкоўнасьць. Сёньня ў Беларусі шмат хто, прыходзячы ў храм, пачынае будаваць для сябе гэтую царкоўнасьць з чыстага аркуша.

Так сталася, што для большасьці беларусаў сваім (на ўзроўні падсьвядомага) стала сінадальная форма візантыйскага абраду. Мы мала ведаем, які быў абрад у XVII-XVII стст. у Беларусі як ва Уніяцкай Царкве, так і ў Праваслаўнай Царкве. Каб мець поўнае ўяўленьне пра абрад, недастаткова вывучыць яго па пісьмовых крыніцах. Трэба яго бачыць, жыць ім. У той жа час, шмат каго сёньня сінадальны абрад не задавальняе. Некаторыя з гэтых людзей спрабуюць адрадзіць старую беларускую царкоўнасьць, іншыя арыентуюцца на новыя формы пабожнасьці, якія прыйшлі з Еўропы і Паўночнай Амерыкі.

Я згодны з Я.Усошыным, што мы ня творым, а складаем Царкву. Царкву творыць толькі Ісус Хрыстос у сьв. Тайне Еўхарыстыі і праз Сьвятога Духа. Але мы прыносім у Царкву сваю ментальнасьць, культуру, народныя звычкі. Да таго ж ня толькі агульнацыянальныя, але і сацыяльныя, рэгіянальныя, групавыя звычкі. І ня ўсе з іх варта пакідаць за парогам храму.

Думаю, што не зусім карэктным зьяўляецца пытаньне, на якую сацыяльную групу мы павінны арыентавацца. Па-першае, наша Царква зьяўляецца каталіцкай, а гэта значыць — універсальнай. І прафесар, і селянін павінны ўтульна адчуваць сябе ў Царкве. Па-другое, місіянерства — гэта толькі адзін з асьпектаў царкоўнага жыцьця. Трэба памятаць, што Царква не зьяўляецца таварыствам па нацыянальных, культурных, партыйных, узроставых інтарэсах. Яна нават не гурток па вывучэньні Сьвятога Пісьма. Яе задачы шырэйшыя і больш высокія. Чалавека замала проста прывесьці ў храм, трэба яго асьвяціць, атуліць Боскай ласкай яго самога і ягонае жыцьцё ва ўсіх праявах.

Пасьля матэрыялістычнага і рацыяналістычнага XX ст., якое можна назваць яшчэ і крывавым, чалавецтва зразумела, што, акрамя матэрыяльнай, ёсьць яшчэ і духоўная рэчаіснасьць. Людзі бачаць дзейснасьць духоўных сілаў (як добрых, так і злых), іхні ўплыў на жыцьцё. Адгэтуль — рост зацікаўленасьці апошнім часам акультызмам і містыкай. Пазбаўленыя шмат гадоў царкоўнага жыцьця, царкоўнага кіраўніцтва, людзі ў сваіх пошуках часам ідуць на небясьпечныя эксперыменты з анталагічнай рэчаіснасьцю. І калі мы — хрысьціянская супольнасьць Беларусі — ня здолеем супрацьпаставіць гэтаму сапраўдную хрысьціянскую духоўнасьць, сапраўднае жыцьцё ў Сьвятым Духу, сапраўдную сустрэчу з Богам, мы рызыкуем пабачыць нашых патэнцыйных вернікаў у шэрагах крышнаітаў, рэрыхаўцаў, сярод прыхільнікаў Блавацкай і Вісарыёна ды інш.

Яўген Усошын бачыць два магчымыя шляхі разьвіцьця нашай Царквы. Хачу зрабіць наконт гэтага некалькі сваіх заўвагаў. Сярод людзей, якія прыйшлі ў нашую Царкву, сапраўды шмат арыентуюцца на новыя формы царкоўнасьці. Частка з іх адносіцца пакуль што досыць стрымана да традыцыйных формаў. Але гэты новы вопыт, калі ён не забаронены ерархічнай уладай, таксама мае права на існаваньне. Ніводны сумленны хрысьціянін ня мае права абвінаваціць прыхільнікаў гэтага шляху ў адсутнасьці сапраўднага жыцьця ў Богу. Урэшце рэшт, важны вынік. А гэты вынік — узрастаньне ў духоўнасьці, асьвячэньне Божай ласкаю.

Другі шлях — гэта арыентацыя на традыцыйныя формы пабожнасьці.

Працяг на с.15 ⇨

# Адраджэньне батлейкі ў магілёўскай школцы

За шэсьць гадоў існаваньня нядзельнай школы пры Магілёўскай парафіі Бялыніцкай іконы Маці Божай у нас пачала фармавацца свая традыцыя сьвяткаваньня галоўных хрысьціянскіх сьвятаў. Хоць Каляды ўжо мінулі, нам хочацца падзяліцца перажытым, данесьці радасьць ад сустрэчы з Госпадам і ад нашых творчых посьпехаў і знаходак.

Да самога сьвята Раства Хрыстова мы пачынаем рыхтавацца яшчэ з лістапада: вырашаем, як адсьвяткаваць з самымі маленькімі, якую скласьці праграму для старэйшых выхаванцаў, якіх гасьцей запрасіць, шукаем кандыдата на ролю сьв. Мікалая; думаем, як здабыць калядныя падарункі.

Пост перад Раством — гэта час радаснага чаканьня сустрэчы з таямніцай, якую немагчыма асягнуць розумам, час для стварэньня настрою ўнутранай цішы. Падчас Каляднага посту мы праводзім з дзецьмі малітоўныя ра зважаньні, якія дапамагаюць нам адчуць рэальнасьць і таемнасьць чаканых падзеяў.

Галоўнымі падзеямі самога сьвята зьяўляюцца спачатку Сьвяты вечар (які нашыя выхаванцы ня могуць сустрэць у сваіх сем'ях, і таму ўсе зьбіраюцца разам, каб правесьці яго як сям'я ў Хрысьце), пасьля мы ўдзельнічаем у сьвяточнай Літургіі. Сьвяткаваньне са старэйшымі выхаванцамі працягваецца ў школцы і доўжыцца, цяпер ужо з вясёлымі сьпевамі, гульнямі, смачнымі стравамі і доўгачаканымі падарункамі, да позняга вечару, пакуль бацькі не пачынаюць хвалявацца.

На наступны дзень, 25 сьнежня, мы адзначаем сьвята з малодшымі. Іх уражвае зьяўленьне Сьвятога Мікалая замест традыцыйнага Дзеда Мароза і батлеечны лялечны сьпектакль пра Нараджэньне Хрыстова, які яны ўспамінаюць на працягу ўсяго наступнага году і выказваюць шчырае жаданьне самім удзельнічаць у батлеечным дзействе. У гэтыя дні ў школцы асабліва шматлюдна.

Вельмі радуюцца нашы дзеці гасьцям. На мінулае Раство да нас прыязджалі семінарысты з Украіны. У гэтым годзе, з ласкавай згоды а. Сяргея Гаека, завітаў семінарыст Андрэй Крот. У жніўні яму давялося два тыдні адпачываць разам з намі ў летніку ў Кастамлотах. З тае пары Андрэй стаў нашым сябрам, а на сьвяце Раства быў і ў якасьці сьвятога Мікалая, і ў якасьці цара Ірада. Вельмі ўзрадавала дзяцей сустрэча з семінарыстам Аляксандрам Шаўцовым, якога яны ведаюць не адзін год па нашых традыцыйных летніках.

Кожны год паўтараюцца асноўныя моманты сьвята Раства, і кожны год яны выяўляюцца цудам, таямніцай, у якой Бог прыходзіць да нас, каб жыць разам з тымі, хто падрыхтаваў Яму месца. Як і дзьве тысячы гадоў таму, сёньня няшмат месцаў для нараджэньня Госпада. Тады гэта была стайня з жывёламі, а сёньня, мы можам сказаць, што адным з такіх месцаў зьяўляецца наша школка падчас Раства. Некалькі тыдняў трывае асаблівая атмасфера сьвята, якая прыцягвае людзей, дае ім нагоду задумацца і спанукае да адкрыцьця сваіх сэрцаў Госпаду. Гэта ня толькі дзеці ды іх бацькі, а таксама розныя людзі, якія дапамагаюць школцы. Адчуваецца, як Бог Сам прыходзіць да нас, апякуецца намі й дае нам тое, чаго мы ня маем, але без чаго ня можам наладзіць годнае жыцьцё — аддае нам Самога Сябе. А мы, успрыняўшы такі вялікі дар, жадаем сьведчыць, дзяліцца ім. Гэта атрымліваецца па-рознаму: праз існаваньне школкі, заняткі, сустрэчы, сьвяты, адносіны паміж намі...

Ужо пасля Калядаў мы запыталі ў нашых выхаванцаў: чым гэтае сьвята зьяўляецца для вас асабіста? Вось думкі некаторых выхаванцаў:

- Вольга: *«Для мяне Раство — гэта нараджэньне маленькага Ісуса дзеля нашага збаўленьня. Кожны чалавек успрымае гэтае сьвята па-рознаму, і ў кожнага па-свойму нараджаецца маленькі Ісус у сэрцы. Для мяне гэта вельмі важны дзень, і таму Сьвята я сустрэла ў нядзельнай школцы».*

Працяг на с.13 ⇨

## "Chemin Neuf" — Новая дарога

**Супольнасьць "Chemin Neuf" — адна з супольнасьцяў, якія паўсталі ў Каталіцкай Царкве пасьля II Ватыканскага Сабору.** *Пачыналася яна з малітоўнай групы, якая ўтварылася ў Ліёне (Францыя) у 1973 годзе. Ад самага пачатку гэтая каталіцкая супольнасьць мае асаблівае паклікаdebate да працы на карысьць еднасьці хрысьціянаў. Супольнасьць мае экуменічны характар, бо ў яе дзейнасьць заангажаваныя хрысьціяне з розных Цэркваў (як Каталіцкай, так і Рэфармацкай, Англіканскай, Праваслаўнай, Лютаранскай), якія пастанавілі жыць, маліцца і евангелізаваць разам, ня здраджваючы ўласнай тоеснасьці, у сулучнасьці са сваімі Цэрквамі.*

***"Chemin Neuf"** — гэта мужчыны й жанчыны (сёстры, браты, сьвятары; сужонкі і цэлыя сем'і, а таксама асобы самотныя), аб'яднаныя верай у Ісуса Хрыста і супольным жаданьнем служыць Царкве, Евангельлю й сьвету. Непасрэдна ў Супольнасьць уваходзіць больш за 900 асобаў у 18 краінах Еўропы, Афрыкі, Амерыкі і на Блізкім Усходзе. Яе сябры таксама працуюць на місіях у больш за 30 краінах сьвету. Да таго ж, вакол "Chemin Neuf" згуртавана болей за 8000 асобаў, якія падтрымліваюць місію гэтай Супольнасьці.*

*У Супольнасьці "Chemin Neuf" сустракаюцца маладая і ўслаўляльная Аднова ў Сьвятым Духу ды шматгадовая Ігнацыянская Традыцыя. "Новая Дарога" паўстала ў важны гістарычны момант — аб'яднаньня Еўропы і станоўчага маршу ў бок еднасьці хрысьціянаў. Як запісана ў Канстытуцыі Супольнасьці, яна "ня мае мэты сама ў сабе; радасьць, якою дзелімся, будучы братамі і сёстрамі ў Ісусе Хрысьце, адпавядае нашаму супольнаму жаданьню несьці людзям Добрую Вестку пра Ўваскрасеньне".*

*Ад моманту паўстаньня "Chemin Neuf" галоўная яе місія — фармацыя хрысьціянаў, каб ажывіць іх прысутнасьць у Царкве і грамадзтве.*

*Кантакты беларускіх грэка-католікаў з Супольнасьцю "Chemin Neuf" маюць шматгадовую гісторыю. У апошні час аднавіліся розныя формы супрацоўніцтва. 26 лютага 2002 году Айцец Візітатар БГКЦ разам з іншымі сьвятарамі ў абацтве Домб (Францыя) меў сустрэчу з заснавальнікам Супольнасьці — а. Ларанам Фабрам. Падчас яе была магчымасьць пагаварыць пра далейшае разьвіцьцё кантактаў ды каардынацыю працы.*

# Тыдзень рэкалекцыяў "Ерыхон"

***У час каляднага адпачынку, з 27 сьнежня 2001 па 2 студзеня 2002 году, адзінаццаць прадстаўнікоў грэка-каталіцкай моладзі з Берасьцейшчыны ды іншых рэгіёнаў Беларусі былі на рэкалекцыях у мястэчку Вэсола паблізу Варшавы. Гэтыя рэкалекцыі мелі назву "Ерыхон". Арганізоўвала іх каталіцкая Супольнасьць "Chemin Neuf" — "Новая Дарога", якая сваёй асаблівай місіяй бачыць служэньне еднасьці паміж людзьмі, еднасьці ў сем'ях, еднасьці хрысьціянскіх Цэркваў.***

Хочацца адзначыць, што ад першага ж кантакту са сталымі жыхарамі рэкалекцыйнага дому адчувалася іхняя шчырасьць, неабыякавасьць, гасьціннасьць. Ніхто не застаўся незаўважаным. Да таго ж палякам і французам, было цікава пазнаёміцца з тымі, хто прыехаў з-за ўсходняй мяжы Польшчы. Яшчэ перад афіцыйным пачаткам рэкалекцыяў кожны, хто знаходзіўся ў Вэсолай першы раз, мог пагаварыць з іншымі — "бывалымі" ўдзельнікамі і арганізатарамі, падзяліцца сваімі сьвежымі ўражаньнямі, распавесьці пра тое, што кожны чакае ў гэты тыдзень "Ерыхону".



Ужо ў першы вечар была запрапанавана адметная для Ігнацыянскіх рэкалекцыяў практыка — цішыня, а менавіта перыяд маўчаньня аж да абеду наступнага дня (выключэньне — час супольных малітваў і сьпеваў). Мэта гэтага — паспрабаваць не перашкаджаць ні сабе, ні іншым у тым, каб пачуць голас Бога, Які да кожнага з удзельнікаў рэкалекцыяў прамаўляў розным спосабам.



*• Гэтак спалучалася ў рэкалекцыйным доме ў Вэсолай старажытная Ігнацыянская традыцыя і харызматычная Аднова ў Сьвятым Духу.*

Кожны дзень пачынаўся з таго, што ўдзельнікі сыходзіліся на сьняданак, пасьля якога зьбіраліся на супольнай малітве ў капліцы. Там сьпявалі псальмы і розныя рэлігійныя песьні, пераважна пад гітару. Наступным пунктам праграмы была навука ці, хутчэй, тэалагічныя ўводзіны ды падрыхтоўка да асабістай малітвы. Кожнага дня для разважаньня прапаноўваўся адпаведны ўрывак з Евангельля, які прачытваўся першы раз у часе ранішніх малітваў. Асабістая малітва выглядала наступным чынам: кожны пасьля ўводзінаў павінен быў вырашыць, дзе і на працягу якога часу будзе размаўляць, а дакладней — спрабаваць пачуць Бога, Які праз словы Сьвятога Пісьма зьвяртаецца да кожнага чалавека. Важны момант у такім спосабе малітвы — гэта быць верным таму, што вырашана зрабіць перад яе пачаткам. Калі, напрыклад, хачу маліцца дзесяць хвілінаў, то менавіта столькі трэба на гэта прысьвяціць часу, ані адной хвіліны больш, ані менш.

У цэнтры дня, зразумела, была сьвятая Імша. Служылі яе папольску альбо па-француззску, але Евангельле чыталася таксама і па-беларуску. Пасьля Еўхарыстыі наставаў час абеду, а калі на сталы падавалася кава ці гарбата, можна было пачынаць размаўляць.

Ня менш плённым, чым супольная малітва, была таксама супольная праца пасьля абеду. Падзеленыя на групы ўдзельнікі рэкалекцыяў прыбіралі адпаведна прызначаныя часткі дому або мелі яшчэ нейкае служэньне. Пасьля кожны мог выбраць для сябе, што рабіць далей: ці пайсьці вучыцца сьпяваць ці танцаваць, ці папросту выйсьці з дому ды пааглядаць ваколіцы. Адначасова адбываліся размовы з духовымі сябрамі. Гэта наступная адметная асаблівасьць Ігнацыянскіх рэкалекцыяў. Кожны з удзельнікаў атрымлівае свайго духовага сябра-праваднікa, які ўжо ведае дарогу і цяпер можа дапамагчы прайсьці яе таму, хто гэтай дарогі ня ведае.

Перад вячэрнімі малітвамі адбываліся сустрэчы ў "фратэрнях" (малых "брацтвах" з 7-12 чалавек), калі мы зьбіраліся групамі у тым самым складзе, што і ў часе пасьляабедзеннае

працы. Гэта быў час, калі кожны мог падзяліцца ў больш вузкім коле сваімі перажываньнямі, сваёй жыцьцёвай дарогай, радасьцю ці смуткам. Гэта час, калі кожны вучыўся слухаць іншага чалавека, асобу, якая мае такія самыя правы на існаваньне, як і ты, вучыўся прымаць гэту асобу такой, якая яна ёсьць, не крытыкуючы, не асуджаючы, не прапануючы гатовых рашэньняў яе праблемаў. Гэта час, калі кожны толькі выслухоўваў брата ці сястру, якія знаходзіліся побач, і хацеў падзяліцца сваім скарбам — тым, што адкрыў яму Бог.

Пасьля сустрэчы ў фратэрнях кожны меў яшчэ час на малітву ў часе адарацыі Сьвятых Дароў, якія выстаўляліся ў галоўнай капліцы. Затым — вячэра й вольны час да вячэрняй малітоўна-разважальнай сустрэчы ўсіх разам, пасьля якой у цішы мы разыходзіліся на начны адпачынак. Так выглядаў агульны план амаль што кожнага дня. Але нельга сьцьвярджаць, што кожны дзень быў аднолькавы й сумны.

Немагчыма апісаць усяго, што адбылося падчас рэкалекцыяў. Таму цяпер хачу ўзгадаць найбольш яскравыя моманты і прывесьці сьведчаньні некаторых удзельнікаў, маладых асобаў з Беларусі.

Яскравым момантам рэкалекцыяў у Вэсолай быў вечар яднаньня. Ён пачаўся малітоўнай сустрэчай, а потым Крыжовай Дарогай па вуліцах Вэсолай, пасьля чаго была адарацыя Крыжа і час на споведзь. Вось словы адной удзельніцы рэкалекцыяў:

*"Дзякую Госпаду за магчымасьць перажыць гэтыя рэкалекцыі, за адчуваньне Ягонай прысутнасьці, за тое, што Ён ведае патрэбы маёй душы і за найвялікшы дар Сьвятога Духа — дар веры, з якой зьнікаюць сумненьні й трывога, а ў сэрцы пасяляецца супакой. Калі я прыйшла на споведзь, у капліцы цьмяна гарэла маленькая лампадка. А пасьля яна ўспыхнула ярка-ярка. Гэта было як... усьмешка Бога".*

*(Надзея ЯРМІШЫНА)*

У гэты вечар яднаньня быў час ня толькі на споведзь, быў час і для таго, каб папрасіць прабачэньня ў таго, каго ты пакрыўдзіў. А калі гэтай асобы не было побач, была магчымасьць напісаць ліст (потым усе яны былі адасланыя) або папросту памаліцца, аддаць свае праблемы Богу.

Іншым яскравым момантам рэкалекцыяў была малітоўная сустрэча, у часе якой удзельнікі маглі аддаць сваё жыцьцё ў рукі Богу і прасіць аб умацаваньні асаблівай ласкай Сьвятога Духу. Вось якія ўражаньні атрымала адна з удзельніц, якая атрымала такую ласку:

*"Для мяне вельмі важным і, напэўна, самым моцным уражаньнем было адчуваньне Божай любові ў сваім сэрцы. Раней я ведала ўсё толькі тэарэтычна.*

*Падчас рэкалекцыяў мы мелі магчымасьць маліцца аб умацаваньні ў Сьвятым Духу. Мне захацелася цалкам аддаць сваё жыцьцё Госпаду, каб Ён вёў мяне, каб па Ягонай волі ўсё было. Перад тым як усе пачалі маліцца нада мной, я адчувала ў сабе хваляваньне. Але потым яно дзесьці зьнікла, і мая душа напоўнілася спакоем і радасьцю ад таго, што Ісус побач са мною. Калі адчуваеш у сваім сэрцы Божую любоў, хочацца, каб усе, асабліва вельмі дарагія для мяне людзі, захацелі прыняць Бога й адчулі Ягоную любоў у сваім сэрцы, каб здолелі скінуць з сябе "старую вопратку" і маглі апрануцца ў сьветлае і чыстае адзеньне".*

*(Марына ТАРАШКЕВІЧ)*

Кожны перажыў рэкалекцыі па-свойму і ў розных момантах мог адчуць і адчуваў Божую прысутнасьць, хтосьці больш эмацыйна, а камусьці Бог, наадварот, напаўняў ласкаю супакою. Вось так у простых словах дзеліцца сваімі перажываньнямі яшчэ адзін удзельнік рэкалекцыяў:

*"Падчас рэкалекцыяў у Супольнасьці "Chemin Neuf" Госпад дапамог мне нанова перажыць сустрэчу з Ім. Менавіта тут была магчымасьць усьвядоміць Божую прысутнасьць у маім жыцьці, а таксама важнасьць асабістай малітвы. Вялікае значэньне мела для мяне духовае сябраваньне. Маўчаньне (цішыня) падчас рэкалекцыяў ды чытаньне Сьвятога Пісьма найбольш паспрыялі таму, каб адкрыцца на Сьвятога Духа, моц Якога асабліва адчувалася пасьля хросту ў Сьвятым Духу".*

*(а. дыякан Аляксандр САПУНКА)*

Мэтай рэкалекцыяў "Ерыхон" было тое, каб дапамагчы кожнаму ўдзельніку адкрыцца перад Богам. І мы шчыра прасілі Госпада, каб разбурыў Сваёй моцай муры ачарсьцьвелага сэрца, як Ён разбурыў калісьці Сваёй моцай муры Ерыхону. Трэба толькі мець адвагу выйсьці насустрач Ісусу, зрабіць першы крок, як Закхей, начальнік мытнікаў, а Ісус сам увойдзе да чалавека ў гасьціну. Прасіце ў Яго жывой вады, як самаранка, і Бог аб'явіць праўду пра кожнага асабіста, і гэта Праўда не асудзіць, але вызваліць і пераменіць так, што зробіць здольнымі крочыць за Ісусам, крочыць шляхамі, які Ён пакажа.

**Валеры Гаўрута**

# Місія

***Сустрэўшы Ісуса, немагчыма застацца такім самым, як перад сустрэчай з Ім. Пачуўшы голас Бога, немагчыма не адказаць Яму. Той досьвед, які здабыла беларуская грэка-каталіцкая моладзь у часе рэкалекцыяў «Ерыхон» у Вэсолай каля Варшавы, не загінуў, але быў засеяны ў духоўную глебу Беларусі. Ужо дарогаю дадому нараджаліся планы, можа, напачатку даволі амбітныя, каб падзяліцца тым, што атрымалі, каб раздаць, напоўніць іншых той верай, ласкай, моцай, якая была дадзена Сьвятым Духам.***

Першым такім адказам на гэтае прагненьне сталі чатырохдзённыя рэкалекцыі для моладзі з пінскай парафіі, якія адбыліся ў Івацэвічах. Падобна, як у Вэсолай, моладзь сустрэлася з досьведам цішыні, асабістай малітвы, медытацыі. Была таксама магчымасьць размовы з духоўным сябрам. Сьвяты Дух дзейнічаў у душы кожнага, як удзельнікаў, так і тых, хто праводзіў рэкалекцыі. Але гэтыя рэкалекцыі не былі адзінымі. Пазьней адбыліся дзьве сэсіі для дарослых: у першай удзельнічалі вернікі івацэвіцкай грэка-каталіцкай парафіі, у другой — пінчукі. Такім чынам Івацэвічы сталі, de facto, рэкалекцыйным цэнтрам. На гэтым актыўнасьць ня скончылася. Моладзь, якая была ў Вэсолай, для сябе самой арганізавала, тым разам у Берасьці, «Weekend з Богам». Самастойна падрыхтавалі праграму, правялі час разам, з вечару пятніцы да нядзельнай Літургіі ўвечары. Галоўнай тэмай стала разважаньне над Сымбалем веры.

Першы кантакт з Вэсолай таксама ня быў страчаны. Моладзь, якая ўжо выязджала на рэкалекцыі ў Польшчу, дый яшчэ некалькі новых зацікаўленых асобаў прынялі ў другой палове лютага ўдзел у сустрэчы, арганізаванай Супольнасьцю "Новая Дарога" ("Chemin Neuf"). Тэмай гэтай трохдзённай сустрэчы стала пытаньне: «Як будаваць добрыя адносіны?» Колькасьць усіх удзельнікаў налічвала каля ста васьмідзесяці асобаў, сярод іх адзінаццаць з Беларусі. У праграме былі сьведчаньні асобаў кансэкраваных, сьвятароў, сем'яў — усе яны зьяўляліся членамі Супольнасьці "Новая Дарога". У адпаведным часе адбыліся сустрэчы адказных за суполкі Міжнароднага экуменічнага хору і за групы "Net for God" ("Сетка для Бога"). Філія Міжнароднага экуменічнага хору ёсьць цяпер і ў Беларусі. Удзельнікі рыхтуюць рэпертуар на працягу году ў маленькіх групах у розных месцах сьвету (у нас пакуль толькі ў Берасьці), каб пасьля адным вялікім хорам сьпяваць улетку ў Францыі. Сёлета ў ліпені таксама плануюцца выступы міжнароднага хору ў Шартр. Падобна, як і экуменічны хор, мае свае асяродкі ў Беларусі і міжнародная фратэрня "Net for God". Гэта духоўнае экуменічнае брацтва аб'ядноўвае людзей з усяго сьвету, усіх, хто «жадае дасягнуць глыбіні» і кіравацца ўсьлед за Хрыстом, каб атрымаць сапраўдную хрысьціянскую фармацыю, каб аддацца служэньню еднасьці хрысьціянаў, і сьведчыць на ўсіх кантынентах. Быць удзельнікам "Net for God" — гэта будаваць «Цывілізацыю Любові» ў сьвеце, ствараць сетку малітвы ва ўсіх мовах, тварыць новае міжнароднае брацтва, ужываючы сучасныя сродкі камунікацыі, працаваць для еднасьці Цэркваў, для супакою і паяднаньня паміж краінамі, у асяроддзі, дзе жывем, удзельнічаць у біблійнай, экуменічнай і тэалагічнай фармацыях. Група "Net for God" ужо дзейнічае ў Берасьці, паўстаюць такія групы ў Віцебску, Менску, Горадні, магчыма, зьявяцца з часам і ў іншых гарадах Беларусі.

Моладзь вярнулася з дому ў Вэсолай, увайшла ў штодзённае жыцьцё. Як зерне, кінутае ў зямлю, павінна загінуць, каб прынесьці плён, так і кожны, каму была дадзена ласка ад Духа Сьвятога, каб зьберагчы яе, павінен раздаць іншым, а яна памножыцца. Бо Ісус сказаў: «...Ідзіце і рабіце вучнямі ўсе народы, ...вучачы іх берагчы ўсё, што Я вам перадаў. І вось Я з вамі ўсе дні аж да канца сьвету» (Мц 28, 19-20).

**Валеры Гаўрута**

Адным з тых, хто сярод першых адчуў на сабе наступствы кастрычніцкага перавароту 1917 году ў Расеі, быў экзарх Леанід (у манастве — Лявонці) Фёдараў. Ён нарадзіўся ў нядзелю, 4 лістапада 1879 году ў Пецярбургу. Ягоны бацька, Іван Фёдаравіч, быў кухарам і належаў да пецярбургскай кухарскай арцелі. Маці, Любоў Дзьмітрыеўна, грэцкага паходжаньня, сярод сваіх аднагодкаў вылучалася пабожнасьцю й верай. Адораная мастацкімі здольнасьцямі, яна й сыну прышчэплівала любоў да мастацтва з самога маленства. 3 дзесяці гадоў Леанід пачаў цікавіцца грэцкім класічным сьветам, а ў чатырнаццаць — упершыню прачытаў Сьвятое Пісьмо. Пад уплывам прачытанага ў юнака нарадзілася думка пра манаства. У дваццацігадовым узросьце, вывучаючы творы Сьвятых Айцоў і гісторыю Ўсяленскіх Сабораў, Леанід прыйшоў да высновы аб праўдзівасьці Паўсюднае Царквы. Але ў той час перайсьці да Каталіцкай Царквы ён яшчэ ня быў гатовы, таму вырашыў паступіць у Пецярбургскую Духоўную Акадэмію, навучаньне ў якой распачаў у 1901 годзе. Леанід Фёдараў неўзабаве стаў адным з лепшых студэнтаў Акадэміі, дзе працягваў вывучаць гісторыю Царквы і творы Сьвятых Айцоў. Пераломным момантам у прыняцьці рашэньня пра далучэньне да каталіцызму была сустрэча юнака з ксяндзом Янам Сцыслаўскім — пробашчам каталіцкага касьцёлу сьв. Кацярыны ў Пецярбургу. Дзякуючы айцу Яну, Леанід стаў на новы жыцьцёвы шлях. Гэты рашучы крок быў нялёгкі для Леаніда і дорага яму каштаваў. Да 1905 году ў Расеі пераход з праваслаўя ў іншае веравызнаньне цягнуў за сабой жорсткія перасьледаваньні: канфіскацыю маёмасьці, ссылку, пазбаўленьне права на выхаваньне ўласных дзяцей і г.д. Выезд Фёдарава за мяжу з мэтай перайсьці ў каталіцызм азначаў для яго немагчымасьць вяртаньня на бацькаўшчыну. Перамагаючы ўсе цяжкасьці, малады пецярбуржац зрабіў гэты рашучы крок дзеля справы паяднаньня Цэркваў, бо ў еднасьці Царквы ён бачыў магчымасьць аздараўленьня і выратаваньня Расеі, над якой ужо лунала страшная небясьпека бязбожніцтва. Ужо тады служэньне паяднаньню Захаду з Усходам стала для Леаніда мэтай ягонага жыцьця, для дасягненьня якой ён быў гатовы на любую ахвяру, не баяўся нават мучаніцтва. Пасьля заканчэньня другога курсу Пецярбургскай Духоўнай Акадэміі студэнт Леанід Фёдараў разам з кс. Сцыслаўскім паехаў у Львоў, дзе сустрэўся з Мітрапалітам Андрэем Шаптыцкім. Васьмідзённы побыт у мітрапалічых палатах і размовы з Мітрапалітам пакінулі ў Фёдарава надзвычай вялікае ўражаньне. Мітрапаліт стаў ягонам духоўным айцом, і гэтая духоўная сувязь паміж імі ўжо ніколі не перарывалася. Леанід быў у захапленьні ад выключнай сардэчнасьці і прастаты Мітрапаліта Андрэя.

Далей жыцьцёвы шлях прывёў маладога расейца ў Рым. Уласна тут, у Вечным горадзе, Леанід Фёдараў склаў вызнаньне каталіцкай веры. Дзякуючы спрыяньню а. Сцыслаўскага Леанід патрапіў на аўдыенцыю да папы Льва XIII, які накіраваў яго на навучаньне ў семінарыю ў Ананіі. Дзякуючы клопатам Мітрапаліта Андрэя, малады семінарыст з Расеі атрымаў папскую стыпендыю і ў тым самым годзе распачаў студыі пад псеўданімам Leonidas Pierre, каб не выклікаць падазрэньня ў расейскім пасольстве. У 1905 годзе Леанід пасьпяхова вытрымаў іспыт на званьне лаўрэата філасофіі, а ў 1907 годзе стаў бакалаўрам багаслоўя. Летам 1907 году Леанід Фёдараў удзельнічаў у І Велеградзкім зьезьдзе.

Каб не перашкодзіць будучай працы Л.Фёдарава ў Расеі, Мітрапаліт Андрэй вырашыў, што ягоныя сьвятарскія сьвячаньні адбудуцца за мяжой. У Львове Мітрапаліт пасьвяціў Леаніда на чытальніка і паддыякана, а дыяканскія ды сьвятарскія сьвячаньні адпаведна 22 і 25 сакавіка 1911 году яму ўдзяліў балгарскі біскуп Міхаіл Міраў у царкве Найсьвяцейшай Тройцы ў Галаце.

Прагненьне а. Леаніда распачаць манаскае жыцьцё ажыцьцявілася ў траўні 1912 году, калі ён з блаславеньня Мітрапаліта Андрэя выехаў на навіцыят у студыцкі манастыр у Камяніцы (Боснія). Час, праведзены ў гэтым маленькім скіце, быў для а. Фёдарава перыядам духоўнай падрыхтоўкі да нялёгкай працы ў Расеі. Духоўны ўзровень, якім а. Экзарх вылучаўся сярод расейскага каталіцкага духавенства, фармаваўся ў студыцкім манастыры. Манахі, якія жылі разам з а. Леанідам у скіце, згадвалі, што ён апранаўся вельмі бедна, заўжды лічыў сябе апошнім, ніколі і нікому не сказаў абразлівага слова. Кожнае слова падчас набажэнстваў ён вымаўляў пабожна выразна і ўважліва. І манахі, і сьвецкія людзі любілі слухаць ягоныя зьмястоўныя казаньні, якія ён прамаўляў павольна, з годнасьцю, а ягоныя тлумачэньні Сьвятога Пісьма нязьменна прыцягвалі ўвагу слухачоў. Сьведчаньні манахаў, якія ведалі айца Леаніда, былі аднастайнымі ў перакананьні аб сьвятасьці ягонага манаскага жыцьця. Дзень 12 лютага 1913 году стаў для а. Леаніда нараджэньнем для новага жыцьця. Менавіта ў гэты дзень прыняў схіму (склаў вечныя зарокі) і прыняў манаскае імя Лявонці. Да канца свайго пакутніцкага жыцьця, нават, будучы адарваным ад манастыра, а. Лявонці адчуваў духоўную прыналежнасьць да студыцкай супольнасьці.

**<u>З матэрыялаў беатыфікацыйнай камісіі</u>**

## Блаславёны
# Леанід ФЁДАРАЎ
## Экзарх, Студыцкага Уставу
## 1879–1935



Па просьбе Мітрапаліта Андрэя ў студзені 1914 году будучы экзарх адправіўся ў падарожжа па Расеі. Ён наведаў Пецярбург, Маскву, Ніжні Ноўгарад і Саратаў. Сьвяты Сінод Праваслаўнай Царквы і дзярждэпартамент Расеі варожа ставіліся да каталікаў усходняга абраду. Айцец Л.Фёдараў браў удзел у сустрэчах расейскіх грэка-каталікаў, ягоная прысутнасьць заўсёды пазітыўна ўплывала на ўдзельнікаў, дазваляла прымірыць між сабой нават заўзятых супернікаў.

Вярнуўшыся з Расеі ў Львоў у чэрвені 1914 году, а. Леанід быў вымушаны зноў паехаць у Расею ў сувязі з напружанай палітычнай сітуацыяй. Як расейскі грамадзянін, ён апынуўся на варожай тэрыторыі *(Аўстра-Венгрыі — рэд.)*. Праз два тыдні пасьля прыезду ў Пецярбург айца Леаніда, як грэка-каталіцкага сьвятара, арыштавалі і паведамілі, што яго адпраўляюць у ссылку ў Табольск. Расейскі ўрад бачыў у ягонай асобе "агента ўніяцкага Мітрапаліта Шаптыцкага", аднак сапраўднаю прычынаю арышту было варожае стаўленьне ўраду да каталікаў усходняга абраду. У Табольску а. Леанід правёў тры з паловаю гады. Найцяжэй за ўсё а. Л.Фёдараў пераносіў суровы сібірскі клімат, здароўе ягонае пагоршылася. Адразу пасьля лютаўскага перавароту ў Расеі Н.С.Ушакова зьвярнулася да міністра юстыцыі А.Керанскага з просьбаю вызваліць а. Леаніда. Адказ быў пазітыўны, і ў сакавіку 1917 году, на Вялікі тыдзень, Вызнаўца вярнуўся ў Петраград.

У той самы час быў вызвалены і Мітрапаліт Андрэй Шаптыцкі, які таксама знаходзіўся ў турме ў Расеі. 29-31 траўня 1917 году ён склікаў

Сабор Расейскай Грэка-Каталіцкай Царквы, на якім а. Леаніда Фёдарава абралі экзархам РГКЦ. З прычыны розных перашкодаў палітычнага характару, толькі 24 лютага 1921 году папа пацьвердзіў стварэньне Экзархату на чале з а. Леанідам Фёдаравым, які адначасова быў менаваны Protonotario Apostolico ad instar.

Кастрычніцкі пераварот 1917 году прынёс для расейскіх католікаў жахлівыя перасьледаваньні. Каб не памерці з голаду самому і дапамагчы зьнясіленым, а. Леанід вельмі шмат працаваў. "З голаду ў мяне трымцяць рукі і калені, я мушу сячы дровы, ламаць парканы для абагрэву, вазіць тачкі і санкі з грузам і сьмецьцем. Толькі Божай міласэрнасьцю магу патлумачыць сабе, чаму я яшчэ не памёр або ня стаў калекам з-за анеміі і рэўматызму, якія зьядаюць мяне, як пацук старую дзеравяжку",— згадваў а. Леанід. Нягледзячы на ўсе цяжкасьці барацьбы за выжываньне, айцец-экзарх не занядбаў сваёй душпастырскай дзейнасьці, ён быў сапраўдным апосталам еднасьці Царквы. На пачатку сакавіка 1923 году савецкая ўлада абвінаваціла а. Леаніда ва "ўзбуджэньні рэлігійных забабонаў у народных масах". У лісьце да Мітрапаліта Андрэя Шаптыцкага ад 7 сакавіка 1923 году, напярэдадні арышту, а. Леанід выказаў гатоўнасьць аддаць сваё жыцьцё за веру ў Хрыста і справу еднасьці між хрысьціянамі. Адкрыты "Маскоўскі працэс" 21-25 сакавіка 1923 году быў выразнай праявай гвалту й зьдзеку над Каталіцкай Царквой. Каталіцкіх сьвятароў, сярод якіх быў і айцец-экзарх, абвінавачвалі ў стварэньні антыбальшавіцкіх арганізацыяў, у невыкананьні дэкрэту пра адлучэньне Царквы ад дзяржавы, у супраціўленьні ўладзе падчас канфіскацыі царкоўнае маёмасьці, у навучаньні дзяцей рэлігіі. Экзарх адмовіўся ад паслугаў адваката і бараніўся сам. Ягоныя прамовы былі шчырыя, лагічныя, пераконлівыя. Свае погляды ён выказваў як шчыры расейскі патрыёт і верны сын Царквы. Ён тлумачыў бязбожнікам, што іхнія законы супярэчаць абавязкам і місіі Царквы. У якасьці пакараньня суд прызначыў айцу-экзарху дзесяць гадоў увязьненьня, якое а. Леанід Фёдараў адбываў спачатку ў Бутырскай (12 сакавіка — 21 красавіка 1923 году), а потым у Сакольніцкай турме. Напрыканцы красавіка 1926 году а. Леанід быў вызвалены з турмы. Гэтаму актыўна спрыяла жонка М.Горкага — Е.П.Пешкава. Яна асабіста зьвярнулася ў ГПУ з просьбаю вызваліць а. Леаніда. Улады пагадзіліся, аднак перад айцом паставілі ўмову "мінус 6" — забарону жыць у шасьці найбольшых гарадах Савецкага Саюзу. Экзарху давялося пасяліцца ў Калузе, дзе ён, не зважаючы на небясьпеку паўторнага арышту, працягваў працу ў Гасподнім вінаградніку, актыўна вёў апостальскае служэньне. Падчас знаходжаньня ў Магілёве, куды яго запрасіў а. Язэп Белагаловы, а. Леанід служыў Літургію ў дзень памяці сьв. Антонія і прамовіў там палкае казаньне. Рэакцыя ГПУ была імгненнай — абодвух сьвятароў арыштавалі. Сталася гэта 10 жніўня 1926 году. На волі айцец-экзарх прабыў няпоўныя чатыры месяцы. У Маскве калегія ОГПУ засудзіла а. Л.Фёдарава да трох гадоў увязьненьня ў Салавецкіх лагерах.

У кастрычніку 1926 году свой першы дзень у Салавецкім лагеры айцец-экзарх распачаў з... Літургіі! Ён служыў яе ў камеры, у якой былі католікі, а пазьней — у капліцы сьв. Германа. Пра такое айцец Леанід мог толькі марыць. З вялікімі цяжкасьцямі ўдавалася атрымліваць усё неабходнае для служэньня. На Салаўках расейскі экзарх па-ранейшаму быў апосталам еднасьці; тут ён пазнаёміўся з выдатнымі прадстаўнікамі Праваслаўнай Царквы, якія таксама былі ўвязьненыя. Вязьні, якія былі разам з а. Л.Фёдаравым, дзівіліся з ягонага жыцьцёвага аптымізму, які перадаваўся ім падчас казаньняў у капліцы сьв. Германа, ягонай жыцьцярадаснасьці, стрыманасьці, простасьці і ўменьня цярпліва пераносіць пакуты.

10 жніўня 1929 году расейскі экзарх быў вызвалены з Салаўкоў. Да сярэдзіны верасьня ён знаходзіўся ў Архангельскім "губисправдоме", адкуль яго адправілі ў ссылку ў с.Пінега Архангельскай акругі, дзе ён жыў на Крыжовай гары ў доме Сіўкова. Наступным месцам ссылкі быў г.Котлас.

Апошнім месцам, куды перавялі гераічнага Экзарха, была Вятка (з 1934 году — г.Кіраў). Тут знайшлася добрая сям'я А.С.Калініна, якая дала прытулак хвораму Экзарху. Сын А.С.Калініна, В.Калінін, распавядае, што а. Л.Фёдараў быў вельмі прыветлівы, асабліва любіў дзяцей, часта раздаваў ім гасьцінцы. Ніхто і не здагадваўся, што за плячыма гэтага чалавека доўгія гады жахлівых выпрабаваньняў. Хваробы, прыдбаныя ў Салавецкім лагеры і ў ссылцы,— астма, рэўматызм, гастрыт, ішыяс — перайшлі ў крытычную стадыю. Паводле ўспамінаў сьведкі, вядома, што айцец Леанід Фёдараў часта маліўся ды цярпліва пераносіў свае пакуты. Сьмерць першага расейскага экзарха надыйшла 7 сакавіка 1935 году на 55 годзе жыцьця ў выніку фізічнага зьнясіленьня і хваробаў, прыдбаных у турмах.

*Пераклад з украінскай*

# Адраджэньне батлейкі ў магілёўскай школцы

⇨ *Заканчэньне са с.9*

**- Сьвятлана:** *«Раство — гэта такое сьвята, якому радуюцца і якое любяць усе людзі. У нядзельнай школцы мы вельмі любім гэтае сьвята: сьпяваем, ставім батлейку. Сьвята дае мне шмат радасьці, яно незвычайнае. Да яго мы доўга рыхтуемся, трымаем пост. Самае галоўнае ў Растве тое, што Ісус павінен нарадзіцца ў кожным з нас. У каго Ён народзіцца — той будзе шчасьлівы. Я — шчасьлівая. У гэтым годзе ў нас быў сьвяты Мікалай. Мы самі зрабілі яму падарункі. Я і мае сябры намалявалі маленькага Ісуса, а сьвятога Мікалая зрабілі з каляровай паперы. Вось было файна!»*

**- Яна:** *«Я лічу, што Раство мы сьвяткуем дзеля таго, каб наблізіцца да Бога. Для мяне важна ўсё: і Літургія, і сьвяточная ялінка, і падарункі, і калядкі. Я прыходжу ў школку, каб быць разам з Госпадам».*

**- Ксенія:** *«Кожны год у нядзельнай школцы мы сустракаем сьвята Раства Хрыстова. Гэта сьвята зьяўляецца для мяне самым лепшым, самым радасным і вясёлым, таму што ў маім сэрцы нараджаецца маленькі Ісус, які суправаджае мяне ўсё маё жыццё і дапамагае ў кожную цяжкую хвіліну».*

Досьвед апошніх нашых сьвяткаваньняў — гэта выступы з батлейкай. Батлейка — традыцыйны беларускі лялечны тэатр — у школцы зьявілася летась, дзякуючы нашым творчым сябрам і ахвярадаўцам. З гісторыі магілёўскай батлейкі вядома, што яна атрымала ў нас назву «вярцеп». Спачатку, у XVIII стагоддзі, батлейку паказвалі шкаляры і семінарысты, з цягам часу — рамесьнікі, а пазьней і сяляне. У XX стагоддзі на Магілёўшчыне ўжо не паказвалі батлеечных сьпектакляў, а вярцепы можна было пабачыць хіба што ў музеях. І цяпер яшчэ батлейка з Магілёва захоўваецца ў Санкт-Пецярбургу, у музеі этнаграфіі.

**- Ксенія:** *«Наша батлейка зьявілася толькі два гады таму назад. Раней, амаль сто гадоў назад, яе паказвалі студэнты, якія хадзілі па хатах. Гэта батлейка была традыцыяй на сьвята Раства Хрыстова, а потым яна зьнікла, і ніхто батлейку не паказваў. Але мы хочам працягваць гэту традыцыю. І ў іншых гарадах Беларусі батлейка таксама зьявілася зноў».*

Ужо два гады запар у калядны час навучэнцы і сябры школкі ладзяць батлеечныя сьпектаклі. Сёлета мы выступалі перад гасьцямі з Польшчы ў Магілёўскім дзяржуніверсітэце, у Бялынічах, у школе непадалёк ад Шклова, а 24 і 25 сьнежня — у нашай парафіяльнай школцы.

Гледачы прымаюць нас вельмі цёпла, а самім артыстам заўсёды цікава ўдзельнічаць у сьпектаклях. Удзельнікі распавядаюць:

**- Вольга:** *«Нас запрашалі з батлейкай ва ўніверсітэт, куды прыязджалі госьці з Польшчы, наш выступ ім вельмі спадабаўся. Мы ўсе вельмі хваляваліся, ці атрымаецца ў нас. У нядзельнай школцы, калі дзеці з сярэдняй групы паказвалі нам батлейку, было вельмі цікава назіраць за сваёй роляй».*

**- Аня:** *«Я ганаруся тым, што мы агучваем ролі ў батлейцы. Мне падабаецца мая роля. А таксама падабаецца, калі людзі з увагай назіраюць за падзеямі батлейкі, цікава, як яны рэагуюць на іх. Калі мы былі ў Бялынічах, мы выступалі ў школе. Спачатку я думала, што там будуць толькі малодшыя дзеці. Але я вельмі зьдзівілася, калі пабачыла сваіх аднагодкаў і нават старэйшых. Мы не чакалі такой увагі і цікавасьці, і вельмі радаваліся».*

**- Ксенія:** *«З нашай магілёўскай батлейкай мы пабывалі ў Шклове, Бялынічах і ў нашым педагагічным універсітэце. Паўсюль нас сустракалі вельмі добра».*

**- Арцём:** *«Мне вельмі падабаецца батлейка і мая роля ў ёй — пастушка Міколы».*

Праз сьвяткаваньне Калядаў мы, дзеці і дарослыя, адкрываючы для сябе й для іншых таямніцу Божага ўцелаўленьня, становімся адной сям'ёй, злучанай любоўю Бога-Айца да сваіх дзяцей.

Прагнем данесьці гэтую праўду іншым.

**Настаўнікі і выхаванцы парафіяльнай школы**
*г.Магілёў*



• Заснавальнік супольнасьці Тэзэ брат Ражэ на малітоўным спатканьні ў Будапешце.

## Сустрэча семінарыстаў

*З 28 па 30 сьнежня 2001 году прайшла чарговая сустрэча беларускіх грэка-каталіцкіх семінарыстаў, манахаў і студэнтаў тэалогіі. Пятнаццаць удзельнікаў сустрэчы на гэты раз гасьцінна прымала менская парафія Маці Божай Нястомнай Дапамогі.*

Падчас размоваў паміж сабою, а таксама з ераманахам а. Пахомам Кавалёвым семінарысты разважалі над сутнасьцю пакліканьня да сьвятарства, месцам сьвята Раства Хрыстова ў жыцьці сьвятара. Айцец Роберт Крывіцкі напярэдадні дня малітоўнага ўспаміну сьв. Язэпа паспрабаваў паказаць постаць гэтага сьвятога як узор звычайнага чалавека, жыцьцё якога кардынальна зьмянілася пад узьдзеяньнем ласкі Божай.

У вольным часе ўдзельнікі сустрэчы зрабілі невялікую пілігрымку на Кальварыйскія могілкі, дзе адслужылі Паніхіду на магіле колішняга дэкана БГКЦ айца Яна Матусевіча.

У гэты ж час грэка-каталіцкіх семінарыстаў, манахаў і студэнтаў тэалогіі прыняў архібіскуп Іван Юркавіч, Апостальскі нунцый у Беларусі. Уладыка быў прыемна ўражаны колькасьцю ўдзельнікаў сустрэчы, бо нават месца ў пакоі нунцыятуры, дзе звычайна прымаюць гасьцей, ледзьве хапіла. Уладыка Іван, які толькі нядаўна прыехаў у Беларусь, пазнаёміўся з кожным з гасьцей і падзяліўся сваімі першымі ўражаньнямі ад нашай краіны.

У нядзелю, 30 сьнежня, удзельнікі сустрэчы прынялі ўдзел ва ўрачыстасьцях з нагоды сьвята апекуна адной з менскіх парафіяў — сьв. Язэпа.

**Андрэй Крот**

### Брат Ражэ з Taize:

# «Любі й абвясьці гэта сваім жыцьцём»

***Каталікі Беларусі ўзялі ўдзел у штогадовай сустрэчы еўрапейскай моладзі, якую з 28 сьнежня па 1 студзеня ладзіць экуменічная супольнасьць Тэзэ (Taize) з Францыі. Браты супольнасьці Тэзэ наладзілі яе гэтым разам у сталіцы Венгрыі Будапешце.***

Ужо дваццаць чацьвёрты раз браты з Тэзэ запрасілі моладзь розных краінаў Еўропы разам маліцца за еднасьць, любоў ды супакой у сьвеце, за пашырэньне даверу. Арганізатары чакалі каля 100 тасячаў гасьцей ня толькі з Еўропы, але й Амерыкі ды іншых кантынентаў. Уражвае колькасьць польскай дэлегацыі — каля 25 тыс. Украінцаў прыехала каля 3 тыс. Былі сярод пілігрымаў і беларусы, хоць і небагата — амаль сто чалавек у двух аўтобусах. З іх пяцёра — прадстаўнікі Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы. Гэта, так бы мовіць, арганізаваная дэлегацыя — пра колькасьць індывідуальных пілігрымаў зьвестак, на жаль, няма. Як ня сумна, але прычыны гэткай нешматлікасьці простыя й вядомыя — патрэба візаў ды грошай на дарогу.



• Будапешт. Вянгерскі парламент.

Але тыя, хто ўсё ж такі дабраўся да Будапешту, напэўна, не шкадавалі. Няма патрэбы шмат казаць пра прыгажосьць гэтай еўрапейскай сталіцы, падзеленай Дунаем на старажытную, будаваную яшчэ пры рымлянах, Буду ды навейшы ад яе, але таксама прывабны Пешт. Ня толькі ды й ня столькі ў месцы справа. Але ў тым, што там адбывалася — у той атмасферы сустрэчы, духу супольнай малітвы, адчуваньні паяднанасьці з іншымі ў чымсьці вельмі глыбокім і важным. Гэтае штосьці можна было адчуць падчас малітоўных сустрэчаў. Яго можна было намацаць і нават абмеркаваць падчас семінараў, якія адбываліся ў першай палове дня ў розных цікавых месцах Будапешту: музеях, цэрквах, нават парламенце. Тэмы гэтых семінараў разнастайныя, як і тыя праблемы, што ставіць перад намі сучаснае жыцьцё ў розных сферах: ад палітыкі ды глабалізацыі да нацыянальнай культуры й асабістага духоўнага жыцьця.

Падчас сустрэчаў у малых групах, якія праходзілі ў парафіях, што гасьцінна прыймалі пілігрымаў, маладыя людзі з розных краінаў дзяліліся ўласнымі разважаньнямі на такія тэмы, як жыцьцё нашых хрысьціянскіх супольнасьцяў і нашая роля ў ім, прабачэньне, давер і служэньне. З дапамогай гэтых элементаў праграмы — малітоўных спатканьняў, семінараў ды спатканьняў у малых групах — удзельнікі сустрэчы Тэзэ мелі магчымасьць паглыбіць сваю веру, засяродзіцца на Божай любові й блізкасьці. Перажыць, каб потым несьці гэта іншым людзям. Стацца сьведкамі любові й даверу. Пра гэта кажа брат Ражэ — заснавальнік супольнасьці Тэзэ — у сваім лісьце да пілігрымаў, прысьвечаным сёлетняй сустрэчы. Назва ліста: «Любі й абвясьці гэта сваім жыцьцём». У ім зьмешчаныя таксама прывітаньні й блаславеньні, якія скіравалі ўдзельнікам сустрэчы Тэзэ Папа Ян Павел II, Патрыярх Маскоўскі, Архібіскуп Кентэрбэрыйскі Джордж Кэры, Генеральны сакратар ААН Кофі Анан.

Малітоўнае спатканьне Тэзэ кліча маладых людзей шукаць месца, людзей, каму асабліва патрэбная іхняя любоў, дапамога; кліча не баяцца аддаць гэтаму свае сэрца, свае жыцьцё. Вярнуўшыся дамоў, неабавязкова распачынаць нешта новае. Трэба шукаць, як лепей несьці людзям любоў і надзею праз тыя формы дзейнасьці, што ўжо існуюць.

Кажучы пра малітоўныя сустрэчы Тэзэ, нельга абмінуць увагаю сьпевы — тыя мілагучныя малітоўныя сьпевы на розных мовах, што разам з хвілінамі малітвы ў цішыні ды разважаньнямі брата Ражэ ствараюць непаўторную атмасферу еднасьці й гармоніі.

Новы год пілігрымы сустрэлі ў парафіяльных храмах, разам молячыся за супакой у сьвеце. Пасьля малітвы ўдзельнікі супольнымі намаганьнямі наладзілі ў кожнай парафіі Фэст народаў, паказаўшы сьпевы, танцы й забавы з розных куткоў сьвету. Беларускі «ручай» нікога не пакінуў абыякавым.

**Васіль Санковіч**
*Менск - Будапешт, 2001-2002*



• Беларуская моладзь у Будапешце на 24-й Сустрэчы еўрапейскай моладзі Тэзэ.



*Вялебны Ойча!*

*Шчыра дзякую за дасланыя мне 2 асобнікі газеты «Царква», у якіх зьмешчаны пераклад майго артыкула «Страчанае Палесьсе». Зацікавіла мяне згадка Рэдакцыі, зьмешчаная напрыканцы артыкула. У ёй ішла гаворка пра магілу айца Баляслава Пачопкі (майго бацькі), якая была на каталіцкіх могілках у Цеpяханах. Калі разам з жонкай я быў на гэтых могілках у сьнежні 1987 году, мы адшукалі прыблізнае месца пахаваньня, аднак без усякага помніка ці надпісу. Быць можа, колішнія парафіяне ксяндза Тарнагурскага паставілі нейкі знак?*

*Пры аказіі дасылаю копію фотаздымка уніяцкіх сьвятароў у Пінску, на якім ёсьць мой бацька Баляслаў Пачопка. Асобна высылаю больш падрабязную сваю працу «Уніяцкі сьвятар з Віленшчыны», у якой зьмешчаны жыцьцярыс бацькі, дзе таксама згадваецца пра ягоную працу над беларускай граматыкай і мовай, зьмешчаны сьпіс публікацыяў. Дадаю яшчэ ксэракопію аднаго асобніка газеты «Biełarus» з лютага 1914 году, рэдактарам якой быў у свой час мой бацька.*

*Прыміце мае сардэчныя віншаваньні і пажаданьні ласкаў Божых, асабліва ў новым 2002 годзе.*

**Пётр Пачопка**
*г.Яблонна (Польшча)*

***Ад рэдакцыі:*** Мы былі вельмі рады атрымаць водгук на апублікаваны ў «Царкве» матэрыял пра ўніяцкага сьвятара Баляслава Пачопку, які да вайны служыў у в.Баброўічы Івацэвіцкага р-ну, ад ягонага сына, які жыве ў г.Яблонна каля Варшавы і зьяўляецца прафесарам фізіялогіі жывёлаў. Рэдакцыя «Царквы» шчыра ўдзячна сп.Пятру Пачопку за дасланыя цікавыя ўспаміны ды іншыя матэрыялы пра а. Баляслава. Яны зьяўляюцца вельмі каштоўнымі для гісторыі нашай Царквы. Рэдакцыя «Царквы» разам з івацэвіцкімі грэка-каталікамі шукае магчымасьці для належнага ўшанаваньня памяці гэтага выдатнага беларускага дзеяча. Таму будзем удзячныя ўсім за магчымае спрыяньне.

# Наша Царква зьяўляецца каталіцкай, а гэта значыць — універсальнай

⇨ Заканчэньне са с.9

Так, існуе небясьпека сысьці да абрадавер'я, да вычытваньня малітваў, да замілаваньня адно эстэтычным бокам абраду і застацца няўважлівым да ягонай духоўнай сутнасьці. Але за гэтую форму гаворыць шматвяковы вопыт Царквы, адшліфаваныя праз вякі словы малітваў, складзеныя вялікімі сьвятымі. Ня кожны і не заўсёды можа маліцца сваімі словамі — часам словы нейкага сьвятога здольныя лепей перадаць менавіта мае думкі.

Калі чалавек практыкуе пэўную форму духоўнага жыцьця, ён не павінен асуджаць тых, хто жыве ў Богу, выкарыстоўваючы іншыя формы. Вельмі непрыгожа, не па-хрысьціянску, казаць: "Хто хоча сінадальны абрад, хай ідзе ў праваслаўную царкву". Ёсьць людзі, якія сталі грэка-каталікамі па дагматычных прычынах, і яны маюць права практыкаваць той абрад, да якога яны прызвычаіліся. Але й шанавальнікі гэтай традыцыі павінны памятаць, што Хрыстос ня даў гатовых вонкавых формаў царкоўнага жыцьця, што на працягу стагоддзяў абрад разьвіваўся. Былі часы, калі Херувімская песьня, Сімвал веры на сьв. Літургіі, вынас сьв. Плашчаніцы ў Вялікую пятніцу, Пасхальная ютрань лічыліся "мадэрнізмам". Нельга і сёньня сказаць, што абрадатворчасьць спынілася ў XVI, XIX ці XX стагоддзі. Яна будзе працягвацца да сканчэньня вякоў, але гэта працэс эвалюцыйны, паступовы, а не рэвалюцыйны. Кожная форма духоўнасьці, калі яна не парушае каталіцкіх догмаў, мае права на існаваньне. І мы не павінны губляць вернікаў паз гэтай прычыны. Нашым імператывам павінны быць словы Хрыста: "Гэта трэба было рабіць, ды й гэнага не пакідаць" (Мц 23, 23).

Беларуская Грэка-Каталіцкая Царква, на маю думку, павінна базавацца на нашых традыцыях. У адваротным выпадку мы перастанем быць усходне-каталіцкай Царквой. Нашыя продкі ня толькі перанялі візантыйскую форму царкоўнага жыцьця, але й творча разьвівалі яе, адаптавалі да сваёй народнай ментальнасьці. І наадварот, культурнае жыцьцё праз гэта атрымала хрысьціянскае асьвячэньне. Ігнараваць гэты вопыт мы ня маем права. Але й групы, якія жадаюць будаваць сваю духоўнасьць на аснове нейкіх новых формаў пабожнасьці, таксама могуць існаваць у нашай Царкве. Ніводны культурны досьвед, калі ён не супярэчыць каталіцкім дагматам, ня можа быць адкінуты.

**Яўген Петухоў**, *г.Берасьце*



*Пахвалёны Езус Хрыстус!*

*Вялікая вам падзяка, дарагія братове ў Хрысьце, за дасланыя газеты й кнігі. Гэта для мяне сталася цудоўным і неспадзяваным падарункам. Я даўно хацеў даслаць ліст у рэдакцыю вашае газеты. Пра вашую газету я даведаўся, калі быў у Іркуцку, дзе адбылося асьвячэньне катэдры. На той час там знаходзіўся а. Сяргей Гаек. Ён распавёў мне пра вашу газету.*

*Газета і ўвесь матэрыял у ёй мне вельмі спадабаліся. Вельмі цікава й зьместоўна. Таму хацеў бы даведацца, ці можна атрымаць вашу газету ў Расеі? Гэта цікавіць і маіх аднакурсьнікаў — семінарыстаў-беларусаў.*

*Крышку пра сябе: маё імя Аляксей Бернардын, нарадзіўся на Далёкім Усходзе, у горадзе Хабараўску. Па маці — беларус, па бацьку — немец, але з дзяцінства рос пераважана ў беларускім асяроддзі. Цяпер паступлянт у Кагрэгацыі Клярэтынаў, а таксама студэнт Вышэйшай духоўнай каталіцкай семінарыі ў Санкт-Пецярбургу.*

*3.03.2001*

***

*Вітае вас Аляксей Бернардын, якому вы дасюль дасылалі газеты й кнігі. Вялікі дзякуй вам за ўвагу. Нават не ўяўляеце, як вам за тое ўдзячны. Бо чытаць духоўную літаратуру роднаю моваю, пагатоў маліцца, як я ўжо маю досьвед, вельмі важна. Раней, асабліва калі быў падлеткам, гэтага не ўсьведамляў. Але сталеючы, дазнаўся гэтае ісьціны.*

*Я пішу вам, бо цяпер не жыву ў Пецярбургу, але на Далёкім Усходзе, у невялікім мейсцы Усурыйск. Гэта край Уладзівастоку. Гэтак здарылася, што я перайшоў ад клярэтынаў да францішканаў (OFM). Першапачаткова я думаў далучыцца да гэтага Ордэну, але не было магчымасьці, і таму пайшоў у клярэтыны. Але Госпад лепей ведае, што трэба ягоным дзецям, і ўрэшце я ўсё адно трапіў да францішканаў. Цяпер застаецца толькі адно спадзявацца на тое, што гэта сапраўды той выбар, якога жадае ад мяне Бог.*

*Таму не вядома, ці будзе цяпер вам зручна пасылаць вашыя газеты й друкаваныя выданьні ў гэткую далечыню? Калі гэта будзе нязручна для вас фінансава, то нашае зграмаджэньне гатова аплаціць выдаткі. У наступным годзе сюды прыедзе таксама айцец-францішканін з Беларусі, яму пэўна будзе прыемна чытаць рэлігійныя газеты па-беларуску.*

*Разам з пецярбургскімі семінарыстамі я наведаў Кіеў, калі там быў з візітам Ян Павел ІІ. Мы прысутнічалі як на рыма-каталіцкай Імшы, так і на грэка-каталіцкай. Было вельмі прыемна бачыць спаміж іншых бел-чырвона-белыя сьцягі. Асабліва падобіў бачыць побач бел-чырвона-белы і жоўта-блакітны сьцягі падчас грэка-каталіцкага набажэнства. Цікава мне было і тое пачуцьцё, якое меў у час Сьвятое Камуніі. Немажліва нават выказацца. Я ніколі не адчуваў такога падчас рыма-каталіцкае Імшы. Я чуў сябе лучным разам з усёю Царквою й шматлікімі продкамі Літвы і Русі. Блізка гэткае ж пачуцьцё меў, калі быў дзіцёнкам і бабуся навучала мяне маліцца «Ойча наш».*

*Добрае пачуцьцё засталося й пасьля колькіх размоваў з каталікамі абодвух абрадаў з Беларусі. Толькі, як мне здалося, былі яны нейкія стомленыя, і ня толькі ад падарожжа, але, думаецца, ад цяжкіх абставінаў, у якіх трываюць сёньня тыя, хто хоча быць беларусам у сваёй краіне. Адзін хлопчык паскардзіўся, што толькі тутака, у Кіеве, яны могуць бяз боязі, адкрыта несьці нацыянальны беларускі сьцяг.*

*Вельмі крыўдна за Беларусь і за ўніятаў. Яны гэтулькі пацярпелі і працягваюць цярпець. Але вядома, што Бог пасылае выпрабаваньні тым, каго больш любіць. Мажліва гэта стасуецца і Ўніяцкае Царквы ў Беларусі. Трэба верыць і спадзявацца.*

*Тутака, у Далёкім Усходзе, таксама ёсьць уніяты, але галоўным чынам з Украіны. На жаль, іхныя дзеці не цікавяцца вераю сваіх продкаў. Частка з іх праваслаўныя, частка каталікі, а іншыя ўвогуле ня вераць. Мажліва, і я гэтакі, бо з боку маці маю продкаў — грэка-каталікоў...*

*Віншую вас з Раством Хрыста. Жадаю, каб у вас усё было добра.*

*Яшчэ адна просьба: калі маеце штосьці друкаванае беларускай лацінкай, прышлеце, калі ласка.*

*З Богам!* *24.12.2001*

**Аляксей Бернардын Турманн**
*г.Усурыйск Прыморскага краю (Расея)*

Marian RADWAN. **CARAT WOBEC KOŚCIOŁA GRECKOKATOLICKIEGO W ZABORZE ROSYJSKIM 1796-1839.** *Roma-Lublin, 2001.— Polski instytut kultury chrześcijańskiej.— 504 с.*

Да апошняга часу ў гістарычнай літаратуры адчуваўся яўны недахоп апрацоўкі першакрыніцаў, якія выяўляюць стаўленьне царызму да Уніі ў перыяд 1796-1839 гг. на землях, якія ўвайшлі ў склад Расеі пасьля падзелаў Рэчы Паспалітай. Грунтоўную спробу вырашыць гэтую задачу зрабіў польскі дасьледчык Марыян Радван у сваёй працы *«Стаўленьне царызму да Грэка-Каталіцкай Царквы на расейскіх землях. 1796-1839»*. Для гэтага патрэбна было атрымаць нармальны доступ (раней — абмежаваны) да расейскіх архіваў, найперш да фондаў Расейскага дзяржаўнага гістарычнага архіву і Архіву Расейскай Акадэміі Навук. У першым знаходзяцца 5196 адзінак з архіваў канцылярыі ўніяцкіх мітрапалітаў (фонд 823), а таксама 3378 архіўных справаў Грэка-каталіцкай Духоўнай Калегіі (фонд 824), 1225 справаў грэка-ўніяцкай часткі вялікага архіву оберпракурора Сіноду (фонд 797, вопісы 6 і 7), даклады міністра ўнутраных справаў, якія рэгулярна складаліся цару, матэрыялы Дэпартаменту веравызнаньняў (фонд 821) ды іншыя, важныя для згаданай тэматыкі архівы. Дадатковую інфармацыю аўтар атрымаў з архіву Акадэміі Навук, асабліва з рукапісаў І.Сямашкі, якія налічваюць 402 дакументы (АРАН, фонд 29). Таксама М.Радван перагледзеў матэрыялы віленскіх, менскіх, кіеўскіх і інш. архіваў, але яны мелі другаснае значэньне для працы.

Знаёмства і аналіз матэрыялаў з расейскіх архіваў дазволілі Марыяну Радвану выдзеліць два перыяды ў разгляданым ім саракагоддзі. Першы прыпадае на часы Паўла І і Аляксандра І (ён вельмі розьніцца ад другога — эпохі Мікалая І). Яны,— Павел І і Аляксандр І — працягваючы палітыку пабудовы праваслаўнай дзяржавы, умацавалі паліцыйны нагляд над неправаслаўнымі веравызнаньнямі, аднак з другога боку за часы іхняга панаваньня Унія яшчэ цешылася абмежаванай талеранцыяй, бо часткова былі адноўлены царкоўныя структуры. Парафіяльная сетка на пачатку разгляданага перыяду была досыць шматлікая, не бракавала й сьвятароў. Паволі, аднак сістэматычна, царызм праводзіў палітыку адасабленьня манахаў-базыльянаў ад парафіяльнага духавенства, фармаваў з іх асобную групу духавенства, якая падпарадкоўвалася біскупам і кансісторыям, а таксама паступова ажыцьцяўляў перадачу манастырскіх маёнткаў дзяржаве і падпарадкаваньне базыльянскіх школаў Міністэрству народнай асьветы.

Другі перыяд — гэта часы панаваньня Мікалая І, які аднавіў палітыку дэспатызму і варожасьці да Уніі, якую практыкавала Кацярына II. Ён жа пастанавіў распачаць канчатковую ліквідацыю Ўніяцкай Царквы. Праз дзейнасьць тайных камітэтаў, пагрозы і подкупы, зьмены ў літургіі і ўніяцкім храме паводле праваслаўнага ўзору, жорсткі паліцыйны кантроль, Мікалай І прывёў частку духавенства да царкоўна-палітычнай лаяльнасьці і далучэньня да праваслаўя.




Галоўная заслуга польскага дасьледчыка Марыяна Радвана ў тым, што яму ня толькі ўдалося больш поўна, дакладна выявіць стаўленьне царызму да Уніі ў перыяд 1796-1839 гг., але й зрабіць паводле архіўных першакрыніцаў поўную рэканструкцыю ўніяцкай парафіяльнай сеткі на акупаваных Расеяй землях Беларусі і Украіны на момант скасаваньня Уніі ў 1839 годзе. Дасьледчык падае поўны сьпіс тагачаснага епархіяльнага духавенства з указаньнем стаўленьня да царскай антыўніяцкай палітыкі. Шмат цікавай і важнай інфармацыі аўтар падае ў табліцах (іх 40), а таксама ў 14 дадатках, дзе зьмешчаны асобныя лісты, просьбы і рапарты духавенства. Раней гістарыяграфія Грэка-Каталіцкай Царквы такой падрабязнай інфармацыяй не валодала.

**Ігар Бараноўскі**

# Спрэчкі вакол статусу Сафійскага сабору ў Полацку

⇨ Заканчэньне са с. 3

На падставе гэтага ў Віцебскім аблвыканкаме лічаць, што статус Полацкай Сафіі неабходна захаваць і ў далейшым.

У сваім лісьце ва ўрад ад 11 студзеня 2002 году грэка-католікі засьведчылі, што Сафійскі сабор, ад пачатку заснаваньня, належаў Кіеўскай мітраполіі і ніколі не належаў мітраполіі Маскоўскай. Пасьля таго, як на пачатку XVIII стагоддзя ён быў разбураны расейскім войскам Пятра І, аднаўлялі яго грэка-каталікі, і надалей, аж да 1839 году, калі ўніятаў прымусова далучылі а Расейскай Праваслаўнай Царквы, ён функцыянаваў як катэдральны грэка-каталіцкі сабор. Пры гэтым скасаваньне Уніі, як было сказана ў лісьце, адбывалася гвалтоўна — толькі ў Полацкай япархіі было рэпрэсавана 152 сьвятары, і ўсё адно: за далучэньне да праваслаўя падпісалася ва ўсёй япархіі 186 сьвятароў з 680-ці.

«Полацкая Сафія павінна стаць храмам, аднак сітуацыя, якая складваецца вакол яе, нас вельмі непакоіць»,— адзначыў старшыня Полацкай грэка-каталіцкай парафіі Мікалай Шарах. Паводле ягоных словаў, стала вядома аб нядаўнім, пакуль не абвешчаным рашэньні ўраду пра сумеснае выкарыстаньне Полацкай Сафіі дзяржавай і Праваслаўнай Царквою. «Калі дзяржава аднолькава ставіцца да ўсіх канфесіяў, то ўлады павінны вырашыць гэтае пытаньне не келейна, а адкрыта»,— лічыць сп. Шарах.

Сафійскі сабор — гэта сымбаль беларускай дзяржаўнасьці і духоўнасьці народу, і ён павінен служыць усім беларускім вернікам ды таксама й тым, хто ня верыць у Бога. Пытаньне аб уласьніку Сафійскага сабору будзе стаяць на парадку дня да той пары, пакуль ня будзе прынятае ўзгодненае рашэньне з усімі зацікаўленымі бакамі і, найперш, з Полацкай грэка-каталіцкай парафіяй, якая мае на яго гістарычныя і юрыдычныя правы, падкрэсьліў старшыня грамады Мікалай Шарах. У адваротным выпадку грэка-католікі зьбіраюцца апеляваць да міжнароднай хрысьціянскай супольнасьці.

Дарэчы, замежная прэса ўжо адгукнулася на сітуацыю вакол храму сьв. Сафіі.



Царква
грэка-каталіцкая газета
№ 1 (32), 2002

Адрас рэдакцыі:
вул.Дворнікава, 63
224014 г.Берасьце
Беларусь
Тэл./факс: (0162) 24-74-82
e-mail: bgkc_carkva@tut.by

**Заснавальнік і выдавец:** Берасьцейская грэка-каталіцкая парафія сьвятых братоў апосталаў Пятра і Андрэя
**Пасьведчаньне аб рэгістрацыі:** № 1055 ад 27.11.1997 г.
**Галоўны рэдактар:** а. Ігар Кандрацьеў
**Царкоўны асістэнт:** а. Роберт Крывіцкі, SOEL
**Рэдактар:** Ігар Бараноўскі
**Падпісана ў друк:** 14 сакавіка 2002 году, а 9-30
**Паліграфічныя работы:** ПП В.Ю.А. (пасьв. № 836), вул.Мініна, 23-106, 220014 г.Менск. **Замова №**
**Аб'ём** — 2,5 ул.-выд.аркушы. **Наклад** 2500 асобнікаў.

Наш разьліковы рахунак
№ 3015200210017
у Берасьцейскім філіяле № 2
ЗАТ "Абсалютбанк",
МФО 150501242

*Газета выдаецца на вашыя ахвяраваньні. Шчыра дзякуем і молімся за ўсіх нашых ахвярадаўцаў!*

# РАЗАМ

газета грэка-каталіцкіх семінарыстаў № 1(5), 2002



• Люблін, 20.02.2002. Уладыка Сафрон Мудры (біскуп Івана-Франкоўскі) і архімандрыт Сяргей Гаек з семінарыстамі БГКЦ, якія вучацца ў Івана-Франкоўску.

# Хрыстос і шчасьце

Кожны чалавек шукае шчасьця. Адзін – у грашах, матэрыяльным дабрабыце. Другі – ва ўладзе, трэці – у любімым чалавеку. Для хрысьціянаў – гэта выклік, які сьвет ставіць перад імі ва ўсе часы. Яны вераць, што іх шчасьце ў Ісусе Хрысьце. Не заўсёды, аднак, атрымліваецца даць годнае сьведчаньне сваёй веры. Забываючыся пра Хрыста, Яго вучні часта прымаюць тое бачаньне шчасьця, якое прапануе ім сьвет.

Давайце паразважаем над тым, ці патрэбен нам сёньня Хрыстос. Ці ня варта "пакінуць" Яго ў часах старажытнай Рымскай Імперыі і жыць паводле ўласнага розуму? І ня толькі нехрысьціянам. Бо, на думку многіх, часы зьмяняюцца, мы маем іншыя праблемы і можам іх вырашыць, толькі кіруючыся ўласным розумам. Прыняць навуку Хрыста — гэта значыць прыняць на сябе шмат абавязкаў і абмежаваньняў. Бо хрысьціянін мусіць выконваць прыказаньні, пераносіць цярпеньні і г.д. А дзе ж тут шчасьце, дзе свабода, якая зьяўляецца адным з асноўных яго варункаў?

Вучні Хрыста, адказваючы на гэтае пытаньне, могуць зьдзівіць сваіх суразмоўцаў. Бо для іх хрысьціянства — гэта ня толькі вучэньне, погляд на сьвет і чалавека. Для іх гэта яшчэ і Ісус, асоба, ад сустрэчы з якой і пачынаецца іх хрысьціянства. Перажыўшы такую сустрэчу, мы становімся новымі людзьмі. Узгадайма тут Нікадэма, якому Ісус тлумачыў пра нараджэньне "другі раз" (пар. Ян 3), апостала Паўла і яго навуку пра "новага і старога чалавека" (пар. Рым 6, 3 і наст.) і г.д. Пэўна ж, што гэтая сустрэча пакідае ў чалавеку след на ўсё жыцьцё.

Часта даводзіцца чуць нараканьні на разбэшчанасьць сучаснага сьвету. Маўляў, людзі больш цікавяцца празнымі прыемнасьцямі, а пра Хрыста думаць ня хочуць. Аднак ці ня вынік гэта нашага сьведчаньня, ня здольнага зацікавіць іншых Хрыстом? Ці захоча чалавек шукаць шчасьця ў сумных і занудных хрысьціянаў?

Шчасьце для хрысьціяніна – гэта быць з Госпадам. Каб зразумець гэта, трэба проста спаткаць Ісуса. Асэнсаваўшы гэтую сустрэчу, мы можам даць захапляльнае сьведчаньне нашым бліжнім. Гэта задача, да якой пакліканы кожны хрысьціянін. Таму да падрыхтоўкі гэтага нумару мы запрасілі ня толькі семінарыстаў. Таксама будуць у ім і творы людзей, якія дасягнулі ў сваім духоўным жыцьці пэўных вышыняў зьяўляюцца аўтарытэтам для нас, пачаткоўцаў. Сёньня сьведчыць пра нашага Збаўцу мы будзем РАЗАМ.

**РЭДАКЦЫЯ**

---

**«Сапраўднае шчасьце трывае вечна і ня можа быць зьнішчана. Усё, што ня мае гэтых дзьвюх уласьцівасьцяў, не зьяўляецца сапраўдным шчасьцем».**

*Эпіктэт з Гераполіс, стоіцкі філосаф*

---

## ГАЛОЎНАЕ НЯ ПРОСТА ПАВЕРЫЦЬ,

***што Ён — Адкупіцель, — гэта толькі пачатак, — але ўсімі сіламі душы кінуцца да Хрыста, да пазнання Яго.*** [...]

І не забываць ні на хвіліну: тое, да чаго мы імкнемся, ня проста акрэсьленая мэта, мяжа альбо спаўненьне, але Ён Сам, Жывы. Ён хоча, каб я Яго пазнаў, каб я зьліўся з Ягонай любоўю,— Ён ідзе да мяне і патрабуе, каб я выйшаў Яму насустрач. Ён чакае ад мяне даверу. [...]

Усё гэта мае адносіны толькі да сьвятых? Не, да кожнага хрысьціяніна. І да мяне, і да цябе... Колькі патрэбна для гэтага часу? Ніхто ня ведае. Ён можа падараваць табе гэта ў адну ноч, а, можа быць, табе прыйдзецца чакаць дваццаць гадоў. [...] Пазнаеш Яго ня з кніжак, не са словаў іншых людзей — ад Яго Самога. Зразумееш, што той "Ты", Які закранае тваё найбольш глыбокае "я", гэта Ён. [...] Мы ўвойдзем у Яго пачатак толькі тады, калі зьяднаемся з Яго воляй. Але як толькі мы адчуваем гэта, то ўнутрана адхіляемся з жахам, бо перад намі паўстае крыж. І тут лепш быць шчырым. Лепш шчыра сказаць: "Я яшчэ не магу", чым прыдумваць для сябе адгаворкі. [...] Калі-небудзь у нас атрымаецца аддаць сябе Яму і наша воля зьяднаецца з Яго воляй. Тады мы па-сапраўднаму ўвойдзем у новы пачатак. Што гэта будзе значыць для нас, мы ня ведаем. Можа, цярпеньне, альбо вялікую справу, альбо цяжар штодзённага быту. Альбо тое, што ніяк не адлюстроўваецца зьнешне, застаючыся ўнутраным навяртаньнем. Усё вырашае Ён.

*(З кнігі Рамана Гуардзіні "Госпад". Пераклаў з расейскай брат Алесь Аўдзяюк.)*

# Не ў грашах шчасьце

*Ці ёсьць шчасьце, ці магчыма быць шчасьлівым і ў чым ёсьць шчасьце? З майго сёньняшняга пункту гледжаньня хачу азірнуцца і распавесьці пра тое, з чаго ўсё пачыналася.*

Быў час, калі жыцьцё паставіла мяне ў цяжкую сітуацыю. Мне трэба было зарабляць грошы для ўтрыманьня маёй маладой сям'і. Па звальненьні з аднаго прадпрыемства стаў шукаць спосабаў, дзе б зарабіць добрыя грошы, каб жыць незалежна ад усіх і ўсяго. У часы "перабудовы" было адно выйсьце — базар. І я з энтузіязмам кінуўся, як кажуць, у бой. Пачалося ўсё з перапродажу тавараў, а потым усё далей і цікавей— "раскруціўся".

Карацей, зацягнула па самую шыю. Неяк нябачна для самога сябе паставіў усё на грошы й сувязі з "патрэбнымі" людзьмі. І ганарліва пачаў сабе марыць, што прыйдзе час, калі я зараблю шмат грошай, утвару сваю фірму і стану, нават, мецэнатам— такім купцом Калашнікавым. Як катамаран, які абапіраецца на два паплаўкі, так і я абапіраўся з аднаго боку на сувязі, з другога — на грошы і такім чынам плыў па моры жыцьця.

І быў пэўны час, калі я асягнуў некаторыя мэты, якія стаялі на шляху да "шчасьця". Меў добрую машыну, зарабляў нашмат больш, чым інжынер,—такі больш-менш сярэдні "базарны" узровень жыцьця. Можна было б і спыніцца, аддаць пазычаныя грошы. Але засталася мара — фірма. Ды і базарная штодзённасьць зацягнула так, што выйсьці было амаль немагчыма.

Тут і зьявіўся чалавек, які прапанаваў перайсьці на новы ўзровень у бізнэсе. Мая мара як быццам сама ішла мне ў рукі. На самой справе гэты чалавек аказаўся прафесійным аферыстам. Я страціў усё, на што абапіраўся: грошы, машыну, бізнэс, сувязі.

Я адчуў, што для мяне настаў канец сьвету і пачаў зьнікаць сэнс жыцьця. У галаву прыйшла жахлівая думка — памерці. Але мая дарагая жонка адчула мой душэўны стан і прапанавала памаліцца.

У той вечар (гэта было акурат у мой дзень нараджэньня альбо дзень пасьля) я перажыў сустрэчу з Госпадам. На наступны дзень я прачнуўся ўпэўнены, што багацьце страчанае, але ніякага страху й роспачы не адчуваў. Душа была спакойная і чыстая, як белы аркуш паперы. Недалёкае мінулае было ў той момант такое далёкае, як быццам іншае жыцьцё. Гэта быў дзень майго новага нараджэньня — у Хрысьце.

Варта дадаць, што да таго часу маю сям'ю нельга было назваць хрысьціянскай, хоць мы і былі павенчаныя. Але пасьля навяртаньня ўсё перамянілася. Ярархія каштоўнасьцяў, сэнс жыцьця — усё стала іншае, новае, бо ў нашае жыцьцё ў надзвычайны спосаб увайшоў Хрыстос. І, гледзячы ў мінулае і на сёньняшні дзень, магу з упэўненасьцю сказаць, што я шчасьлівы чалавек. Я бачу дапушчэньне Божае ва ўсіх нашых памкненьнях. Госпад нібы казаў: "Добра, дзеткі Мае, паспрабуйце пажыць без Мяне". Я вельмі ўдзячны Яму за ўсе смуткі і радасьці, за дарагіх бацькоў, якія 33 гады таму нарадзілі мяне, за майго брата, за маю любую жонку і сына; за маё жыцьцё да навяртаньня, дзе бачны Божы провід; за таго аферыста; і асабліва за той дзень, калі Госпад увайшоў у маё жыцьцё.



Пэўна, сёньня я таксама маю шмат цяжкасьцяў і праблемаў. Але стараюся ўсё прымаць са спакоем і радасьцю, бо ведаю, што са мною заўсёды побач Хрыстос.

Калісьці ў юнацтве я разважаў, якім я буду, калі мне будзе за трыццаць. Сёньня мне трыццаць тры, і я шчасьлівы. І шчасьлівым быць магчыма — калі жыць з Хрыстом.

**Аляксандр Шаўцоў**

# ШЧАСЬЦЕ
## *гэта ёсьць* задавальненьне галоўных чалавечых патрэбаў...

***З айцом протапрасьвітарам Віктарам Данілавым гутарыць Андрэй Крот***

**Андрэй Крот**: Айцец Віктар, з Вашай кніжкі "Мой путь к Богу и Католической Церкви" мы ўжо трохі ведаем пра Ваш духоўны вопыт. А якое месца займае Хрыстос у Вашым жыцьці?

**А. Віктар Данілаў:** Я разглядаю Хрыста праз Яго словы — "Я ёсьць Дарога, Праўда і Жыцьцё"(Ян 14, 6).

Праўда — у тым значэньні, што Хрыстос ёсьць праўдаю анталагічнаю (ад грэцкага "онтос" — быт). Гэта ёсьць згоднасьць рэчаіснасьці з замыслам Творцы. Напрыклад, інжынер вынайшаў машыну і аддаў у цэх, каб рабочыя яе збудавалі паводле чарцяжоў. Машына зробленая – аднак, не працуе. Чаму? Бо яна зроблена ня згодна з замыслам інжынера. Так і людзі ў дачыненьні да Бога. Законы Божыя існуюць дзеля таго, каб чалавек жыў паводле іх.

Хрыстос, Слова Божае, Адзінасутнае Айцу, увасабляе гэтую анталагічную праўду. Таму жыцьцё, згоднае з Хрыстом,– гэта жыцьцё, згоднае з замыслам Творцы, гэта будаваньне рэчаіснасьці чалавечага жыцьця згодна з замыслам Бога.

Хрыстос – гэта Дарога. Ён навучыў нас ня толькі таму, як трэба любіць Бога, Ён адкупіў нашыя грахі. Сапраўды, калі мы маем сябра, з якім пасварыліся, а нам было вельмі добра разам. Пасьля спрэчкі сябра перастаў са мною размаўляць. І калі я хачу аднавіць сяброўства, я, па-першае, прашу ў яго прабачэньня, па-другое, я стараюся выправіць прынесеную шкоду. Толькі тады ў мяне зьнікае пачуцьцё ўнутранай непаўнавартаснасьці перад пакрыўджаным мною чалавекам, а ў таго чалавека зьяўляецца жаданьне прабачыць мне. Пакрыцьцё віны ў рэлігіі называецца адкупленьнем грахоў. Адкупіць грэх можа й хтосьці іншы. Але адкупленьне толькі тады можа дасягнуць мэты, зьняць нашую ўнутраную непаўнавартаснасьць, калі яно адпавядае нашай віне.

Калі мы абразілі Бога, Істоту, бязьмежную ў сваёй годнасьці, то нашая віна бязьмежна вялікая. Вось чаму нашая ахвяра Богу за нашую віну (а гэта патрэба чалавека – пакрыць нанесеныя Богу страты) мусіць быць роўнай Богу. Але хто можа быць роўны Богу? Толькі сам Бог.

Таму, з любові да людзей, для адкупленьня людзкой віны, Бог прымае чалавечую натуру ў асобе Хрыста. Прынесеная Хрыстом ахвяра за нашыя грахі здымае з нас пачуцьцё ўнутранай непаўнавартаснасьці, мы атрымоўваем сьмеласьць малітвы да Бога, мы пачынаем разумець глыбіню сваёй віны. Бо дзеля таго, каб пазбавіць нас гэтай непаўнавартаснасьці, спатрэбілася такая вялікая ахвяра. Мы раскайваемся, мы мяняемся, і ў замен атрымоўваем ласку, якая робіць нас вольнымі ад страсьцей.



• Дэкан БГКЦ а. Віктар Данілаў на аўдыенцыі ў Сьвятога Айца Яна Паўла II.

Хрыстос – гэта жыцьцё. Як Ён кажа ў размове з Самаранкаю, што ад Яго пацякуць рэкі жывой вады, ці, па-іншаму, асьвячэньне ласкаю Божаю. Бо бяз ласкі Божай мы ня можам збавіцца. І вось, жыцьцё – гэта ласка Божая, якая ідзе нам праз Хрыста.

Так я разумею ролю Хрыста ў маім жыцьці.

**Андрэй Крот:** Тэма нашага нумару "Хрыстос і шчасьце". Скажыце, як Каталіцкая Царква разумее шчасьце?

**А. Віктар Данілаў:** Шчасьце гэта ёсьць задавальненьне галоўных чалавечых патрэбаў, якое суправаджаецца пачуцьцём унутранага задавальненьня, радасьці. Шчасьце паўтарае структуру галоўных патрэбаў, а яна вельмі простая. Мы маем матэрыяльны быт – нашае цела і духоўны быт – нашую душу. Душа таксама мае сваю структуру: розум, воля і вышэйшыя пачуцьці. Такім чынам, структура галоўных патрэбаў ёсьць чатырохвымерная: цела, розум, воля і вышэйшыя пачуцьці.

З пункту гледжаньня цела чалавек хоча жыць – вечна і без цярпеньняў. Адсюль вынікаюць іншыя патрэбы, напрыклад, чалавек хоча быць сытым, апранутым па надвор'і, мець няшкодную працу і г.д. З пункту гледжаньня розуму чалавек хоча ўсё ведаць. З пункту гледжаньня волі ён хоча свабоды ад прымусу. З пункту гледжаньня вышэйшых пачуцьцяў ён хоча вечнай любові без перасычэньня.

Калі кажуць, што шчасьце суб'ектыўнае,– гэта вельмі няправільна. Бо душа кожнага чалавека збудаваная паводле тых самых законаў. Суб'ектыўнасьць шчасьця паўстае тады, калі немагчыма задаволіць усе чатыры патрэбы. Тады, напрыклад, дзяўчына гаворыць: "Шчасьце ў любові, каханьні". Вучоны гаворыць – у творчасьці, гэта значыць у пазнаньні. А хтосьці, хто хоча быць свабодным, скажа:

*Працяг на с. IV* ⇨

# ШЧАСЬЦЕ ГЭТА ЁСЬЦЬ ЗАДАВАЛЬНЕНЬНЕ ГАЛОЎНЫХ ЧАЛАВЕЧЫХ ПАТРЭБАЎ...

⇨ *Заканчэньне са с. III*

“Лепей памерці стоячы, чым жыць на каленях!” Хтосьці хоча жыць за любы кошт. Але кожны з гэтых чатырох хацеў бы мець задаволенымі ўсе чатыры патрэбы.

Можна спытаць: “Дзе ёсьць такое шчасьце?” Мы, каталікі, кажам, што ёсьць шчасьце абсалютнае і ёсьць шчасьце адноснае. Адноснае – на зямлі, абсалютнае – у будучым жыцьці. Але ад гэтага структура шчасьця не мяняецца. Толькі мы хочам усяго ў межах зямных магчымасьцяў. І, трэба сказаць, што ў абароне існаваньня абсалютнага шчасьця гаворыць той прынцып, што чалавечая прырода заўсёды жадае толькі магчымага. Але асягненьне шчасьця, як адноснага, так і абсалютнага, магчыма толькі ў Богу, толькі праз Яго ласку.

Напрыклад, здароўе чалавека залежыць ад выкананьня ім законаў, усталяваных Богам, – цялесных і маральных. Калі мы іх захоўваем – мы ня церпім. Альбо, бывае, што мы церпім не за свае, а за чужыя грахі. Але тады мы мусім змагацца, каб і іншыя не грашылі. Гэта залежыць ад нашай пакоры Богу, Яго волі й ласкі.

Што да нашых ведаў, то яны залежаць ад працавітасьці. Лянота як грэх перашкаджае набыцьцю ведаў. Таксама і гардыня. Дары Духа Сьвятога дапамагаюць пазнаваць сьвет. А значыць, найбольш поўныя веды ў межах зямных магчымасьцяў можна асягнуць толькі пры ўдзеле ў натуры Бога.

Што да свабоды, мы бачым, што ў чалавеку ёсьць свабода волі, свабода “дэ-юрэ”, як мы гаворым, свабода псіхалагічная. Але не “дэ-факта”. Чалавек жыве матывамі, нават, я б сказаў, у адпаведнасьці з найбольш моцнымі матывамі. Таму рэальны чалавек не бывае свабодны. Рэальна свабодным робіць чалавека ласка асьвячальная. Аб гэтым гаворыць Евангельле: “Дзе Дух Гасподні, там свабода. Да свабоды вы пакліканыя, браты. Але каб гэтая ваша свабода не была дагаджэньнем целу.” Як мы бачым, і свабода рэалізуецца толькі пры ўдзеле ласкі Божае.

І нарэшце разгледзім пытаньне любові. Чалавек любіць іншага за нейкія дасканаласьці альбо з удзячнасьці. Але ідэальных людзей няма, і таму, пазнаючы чалавека, мы пераконваемся ў гэтым і любоў зьнікае. А калі чалавек любіць як Бог (а Ён любіць, таму што ня можа не любіць), калі чалавек знаходзіцца ў стане ласкі асьвячальнай, у яго паўстае патрэба рабіць дабро. Такім чынам, і любоў вечная і без перасычэньня магчыма толькі праз удзел у натуры Бога.

**Андрэй Крот: А ці можа быць у поўні шчаслівы чалавек, які не пазнаў Хрыста?**

**А. Віктар Данілаў:** Не. Калі ён лічыць, што шчаслівы, то проста памыляецца. Мы цудоўна ведаем на прыкладзе літаратурных герояў, што чалавек перасычаецца матэрыяльнымі зямнымі жаданьнямі. Чалавечая душа збудаваная зусім па-іншаму, чым душа жывёлы. Тое, што задавальняе жывёлу, ня можа задаволіць чалавека. Чалавек народжаны для вышэйшых рэчаў.

Варта дадаць, што гэтыя чатыры галоўныя патрэбы, якія складаюць структуру шчасьця, зьяўляюцца таксама крытэрыем праўдзівай ідэалогіі. Сапраўды, калі мы застасуем гэтыя галоўныя патрэбы да атэізму, мы бачым, што ён не абяцае вечнага жыцьця без цярпеньня. Ці дае ён поўнае веданьне? Праз ляноту і гардыню, адсутнасьць дароў Сьвятога Духа – не. Ці дае свабоду? Не! Любоў вечную без перасычэньня? Не! Значыць – гэта ілжывая ідэалогія.

Ніякая іншая ідэалогія, апрача хрысьціянства, я б дадаў, каталіцтва, ня можа зрабіць чалавека шчасьлівым. Калі ён гаворыць пра шчасьце – гэта ілюзія.

Я, напрыклад, ведаю латыша, з якім мы сядзелі разам у лагеры і размаўлялі пра шчасьце. Ён гаварыў, што шчасьце — гэта калі адчуваеш бесьперапынны сэксуальны аргазм. Гэта яўнае заблуджэньне. Па-першае, аргазм не трывае вечна, потым надыходзіць смутак і расчараваньне. І гэтак далей. Ну, я лічу, гэта зразумела і без каментараў. Таксама гарэлка альбо наркотыкі. Ці могуць яны зрабіць шчасьлівым? Пэўна ж не! Вядома, які гэта мае плён.

**Андрэй Крот:** Ойча, а Вы – шчасьлівы чалавек?

**А. Віктар Данілаў:** Адносна. Абсалютна я не магу яшчэ быць, я яшчэ не памёр. Ёсьць некаторыя абставіны, якіх я не магу пераадолець і якія перашкаджаюць мне быць цалкам шчасьлівым. Чалавек хоча вечнага жыцьця без цярпеньня. А ў мяне ногі хворыя. Ці магу я казаць, што я ў гэтым сэнсе шчасьлівы?

Але гэта наступствы грахоўнага жыцьця, не абавязкова майго. Некаторыя хваробы я атрымаў у лагеры. Пакуль я быў малады, яны не вылазілі, а ў старасьці яны вылазяць. Ну што ж зробіш?

Пакутуем мы за грахі нашых продкаў, за грахі атачэньня і г.д. Мы таксама часта ў гэтым вінаватыя, як казаў Лермантаў,— “да дабра і зла пастыдна раўнадушныя”. Гэтая абыякавасьць да грахоў іншых і нас робіць у рэшце рэшт хворымі і г.д.

Любоў пераадольвае цярпеньні. Так, жанчына, любячая маці, начамі ня сьпіць, але не пакутуе ад гэтага. Любоў перамагае пакуты.

---

*Рэдакцыя просіць прабачэньня ў Яўгена Ўсошына за памылковую назву ягонага артыкулу ў «Разам» № 4, дакладная назва — «Кім быць».*

**РАЗАМ № 1(5), 2002**

дадатак да газеты «Царква», № 1 (32)

**Над нумарам працавалі:**
Андрэй Крот (akrot@poczta.onet.pl);
Андрэй Буйніч (niepismienny@poczta.onet.pl)

**Пішыце нам:**
al.Andrej Krot (al.Andrej Bujnicz)
W.S.D., ul.Kościelna 10,
17-312, Drohiczyn, POLSKA